Ідзе падпіска на "Народную Волю" на снежань 2017 года і на першую палову 2018-га.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 90 (4239)**

14 лістапада 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**СКАЗАНО!**



## Сергей НАЛИВАЙКО,
министр по налогам и сборам Республики Беларусь:

*– У нас сложно приобрести жилье. В то же время есть достаточное количество людей, которые имеют не две, а больше квартир. Открою вам небольшой секрет, который не содержит налоговой тайны: в нашей стране есть три человека, в пользовании которых по 14 квартир, порядка 12 человек имеют по13 квартир.*

(Из выступления во время встречи с работниками предприятия «Беларусьрезинатехника» в Бобруйске.)

**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

# Бізун ад Калякіна

Вы забыліся, як пахне нафталін? Тады вазьміце ў рукі праграму Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Вялікі Кастрычнік у гістарычных лёсах беларускай дзяржаўнасці", што прайшла нядаўна ў Нацыянальнай акадэміі навук. Заўважце: нават у назве свята, якое застаецца ў беларускім афіцыйным календары, тая рэвалюцыя (якую многія ўвогуле лічаць пераваротам) ужо не называецца "Вялікай": проста "Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі". Арганізатары ж канферэнцыі відавочна пастараліся выглядаць святейшымі за Папу Рымскага.

Але я пра іншае. Толькі на першы погляд здаецца, што дыскусіі пра "Вялікі Кастрычнік", якія абвастрыліся ў звязку са стогадовым юбілеем падзеі, – гэта суцэльны нафталін, ці, як кажа моладзь, поўны адстой. Напраўду ж бяда Беларусі ў тым, што наступствы камуністычнага эксперыменту шмат у чым вызначаюць яе сённяшні незайздросны стан, балючыя праблемы. І нават, калі хочаце, лёс той самай дзяржаўнасці. Бо сёння наша краіна апынулася ў небяспечнай залежнасці ад хворай на імперскія амбіцыі Масквы менавіта таму, што ў нас не адбылося тых рэформ, якія выкаранілі б рэшткі "саўка" і дазволілі інтэгравацца ў развіты свет.

Улада аказалася ў палоне савецкіх падыходаў да кіравання эканомікай. Што ні кажыце, а наша нацыянальная гаспадарка пакуль застаецца шмат у чым саўковай. Гіганцкі дзяржаўны сектар, як монстр, з'ядае гіганцкія порцыі казённых грошай, але па вялікім рахунку неэфектыўны.

Так, сёння наверсе загаманілі пра неабходнасць развіваць прадпрымальніцтва, разняволіць бізнес і г.д. Маўляў, вось-вось прымем адпаведны пакет рэвалюцыйных (і тут рэвалюцыя!) рашэнняў. Але навучаныя горкім досведам бізнесоўцы не надта даюць веры гэтым абяцанкам. Бо дакументы падобнага кшталту ўжо не аднойчы прымаліся. Аднак заставалася і застаецца рэальная небяспека, што заўтра прыйдзе вялікае начальства, як той камісар з маўзерам, і ўсё адбярэ імем рэвалюцыі. А няшчаснага "буржуя" калі і не расстраляе (усё ж гуманізацыя!), то скіруе загараць на нарах, каб там узважыў, ці не лепей адкупіцца.

Яшчэ болей: і некаторыя з апанентаў рэжыму развакаюць пра карысць палітычнага гвалту над "праклятымі буржуінамі", фактычна – пра патрэбу новай дыктатуры пралетарыяту.

*"Атрымаўшы ўладу, левыя і камуністычныя партыі проста абавязаны выкарыстоўваць дзяржаву ў інтарэсах працоўнай большасці. Найперш цераз прыняцце адпаведных законаў ды правілаў, якія аб'ектыўна будуць пярэчыць інтарэсам класа буржуазіі і выклікаць супрацьдзеянне з яе боку"*. Гэта цытата належыць не Троцкаму і не Леніну. Так развaжаў на нядаўняй міжнароднай канферэнцыі ў Малдове лідар Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" (былой Партыі камуністаў Беларускай) Сяргей Калякін. Ён патлумачыў: калі буржуазія будзе ўпарціцца, займацца сабатажам, то гэта натуральныя злачынцы, супраць якіх належыць ужываць *"інструменты легальнага гвалту"*.

А на падобнай канферэнцыі ў Мінску 8 лістапада той самы Калякін зазначыў, што *"існавалі выдаткі ў рэалізацыі сацыялістычнага праекта, якія ў рэшце рэшт прывялі да яго краху"*, да *"рэстаўрацыі капіталізму ў 1991 годзе"*.

Божачкі, ды дзе ў нас той капіталізм? Каб далі яму трохі волі пасля 1991 года, дык мо Беларусь і не цягнулася б у хвасце еўрапейскіх рэйтынгаў дабрабыту. Можа б, не баяліся так інвестары ўкладаць грошы ў нашу эканоміку. А так, паводле свежых звестак, сёлета за трэці квартал прамыя замежныя інвестыцыі ў Беларусь на чыстай аснове склалі толькі 90,2 млн долараў (за адпаведны перыяд летась было 131,6 млн).

Паколькі ж інвестыцый кот наплакаў, то даводзіцца браць дарагія крэдыты, размяшчаць еўрабонды пад высокі працэнт. І цяжар усё большага дзяржаўнага доўгу кладзецца на плечы тых самых працоўных, пра якіх на словах дзень і ноч клапоцяцца як чыноўнікі ва ўладзе, так і іх левыя апаненты, упэўненыя, што ўжо іх дыктатура акажацца самай справядлівай і ўсіх ашчасліві ць.

Вось толькі ніводзін з апалагетаў гвалту ў імя ўсеагульнага шчасця не можа прывесці прыклад, каб у нейкай краіне такі эксперымент са здушэннем "праклятых буржуінаў" прывёў да росквіту, усеагульнага дабрабыту. Па сутнасці, працягваюць эксперымент у чыстым выглядзе толькі Куба (ды і там ужо трохі адступаюць) і Паўночная Карэя. Мы хочам у такі "рай"?

Перадавыя ж краіны грунтуюцца на рыначнай эканоміцы (якую левакі грэбліва называюць буржуазным ладам). Так, гэта не ідэальны механізм, аднак нічога іншага, што эфектыўна працавала б на дабрабыт і развіццё, чалавецтва не прыдумала. Яшчэ болей, акурат там, дзе пануе "буржуазны лад", створаны і самыя моцныя ўзоры сацыяльнай дзяржавы, да якіх беларускай – як да Месяца. Ці ж не можа быць такім прыкладам, скажам, тая ж Швецыя?

Таму не трэба, таварыш Калякін, баек пра тое, што, маўляў, наш бізун будзе самы справядлівы і мы зможам найлепей адабраць ды падзяліць. Ста гадоў дастаткова, каб пераканацца: гэта шлях у тупік.

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**



## Роберт РАЙЛІ, Паверaны ў Справах ЗША ў Беларусі:

# «Падтрымка бізнесу дзяржавай – гэта пытанне яго бяспекі»

Пытанні падтрымкі бізнесу дзяржавай адносяцца да сферы яго бяспекі, заявіў Паверaны ў Справах ЗША ў Беларусі **Роберт Райлі** 13 лістапада на VII Міжнародным форуме прадпрымальніцтва ў Мінску.

Паверaны ў Справах ЗША падкрэсліў: падтрымка дзяржавай малога і сярэдняга бізнесу – *«гэта адзіны выбар, які ёсць ва ўрада»*. *«Гэта пытанне эканамічнай бяспекі, гэта пытанне агульнай бяспекі – і вы павінны зрабіць усё, што ў вашых сілах, каб падтрымліваць прадпрымальніцтва. Калі ласка, працуйце на карысць усіх беларусаў, развівайце бізнес-супольнасць»*, – заклікаў амерыканскі дыпламат беларускія ўлады.

Паводле слоў Райлі, Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці (USAID) у Беларусі ў сферы развіцця прадпрымальніцтва *«працуе вельмі рупліва»*.

У сваю чаргу пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі **Фіёна Гіб** выказала меркаванне, што ў беларусаў ёсць шанцы *«стаць стартап-нацыяй»*. *«Беларусь інвестуе ў сваё маладое пакаленне і рушыць у гэтым кірунку. Тут добра развіты IT-сектар, беларускія стартапы ўжо вядомы ва ўсім свеце»*, – адзначыла яна.

VII Міжнародны форум прадпрымальніцтва ў Мінску праходзіць у межах Сусветнага тыдня прадпрымальніцтва, які адкрыўся 13 лістапада.

**Аляксей АЛЯКСАНДРАЎ.**
(БелаПАН.)

**ВІЗІТ**

# Рыгоні наведае Беларусь



Дакладчык Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) па сітуацыі ў Беларусі **Андрэа Рыгоні** наведае краіну 22–26 лістапада, паведаміў БелаПАН старшыня камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі, кіраўнік рабочай групы Нацыянальнага сходу па вывучэнні праблематыкі смяротнага пакарання **Андрэй Навумовіч.**

Запрашэнне зрабіць візіт было перададзена Рыгоні ў кастрычніку, калі беларуская дэлегацыя знаходзілася ў Страсбургу для абмеркавання сітуацыі ў Беларусі на пасяджэнні камітэта ПАСЕ па палітычных пытаннях і дэмакратыі.

Паводле слоў Навумовіча, асноўная мэта візіту – абмеркаванне пытання смяротнага пакарання.

"*У яго* (Андрэа Рыгоні. – **Рэд.**) *адбудзецца шэраг сустрэч, у тым ліку з дэпутатамі Мінскага абласнога савета дэпутатаў, дэпутатамі базавага ўзроўню Валожынскага раёна, з парламенцкай рабочай групай па праблематыцы смяротнай кары*, – сказаў Навумовіч. – *Плануецца таксама выступленне Рыгоні перад студэнтамі Мінскага педагагічнага ўніверсітэта*".

Увядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне можа стаць першым крокам на шляху ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы. У 1993 годзе беларускі парламент атрымаў статус спецыяльна запрошанага ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, але ў 1997-м быў пазбаўлены яго пасля рэферэндуму, які захаваў смяротнае пакаранне.

За апошнія 20 гадоў у Беларусі было пакарана больш за 400 чалавек, толькі адзін з асуджаных да смяротнага пакарання быў памілаваны Аляксандрам Лукашэнкам.

**Таццяна КАРАВЯНКОВА,**
(БелаПАН.)

**ТРАГЕДИЯ**

# Мощное землетрясение на границе Ирана и Ирака: более 300 погибших



На западе Ирана в результате землетрясения магнитудой 7,3 погибли по меньшей мере 328 человек, сообщают иранские власти, и это число продолжает расти. Погибшие есть и в Ираке. Очаг находился на глубине 33,9 километра, толчки ощущались в Турции, Израиле и Кувейте.

Более 2800 человек получили ранения.

**В МИРЕ**

## Цена Brexita – 60 млрд евро?

Великобритания должна выплатить Европейскому Союзу при выходе страны из сообщества как минимум 60 млрд евро. Об этом заявил председатель Европарламента **Антонио Таяни** в опубликованном в понедельник интервью медиагруппе Funke.

Глава ЕП высказал мнение, что большинство британцев сейчас считают ошибкой решение о выходе из ЕС. *«И в британском правительстве наступило отрезвление, даже если официально это и не признают»*, – добавил он.

## В Германии предложили отменить восьмичасовой рабочий день

Глава экспертного совета при правительстве ФРГ выступил за более гибкий график работы в немецких компаниях. Восьмичасовой рабочий день устарел, убежден **Кристоф Шмидт.** В то же время он предостерег от того, чтобы подобная реформа трудового законодательства не привела к *«скрытому увеличению рабочего времени»*.

*«Возможно, работодателям этого и хотелось бы, но речь должна идти исключительно о том, чтобы существующее рабочее время более гибко распределялось в течение дня и недели»*, – объяснил Шмидт.

Еще ранее сообщалось, что работодатели в Германии давно требуют отменить восьмичасовой рабочий день, сохранив только действующее недельное ограничение в 48 часов.

## Редкий бриллиант выставлен на аукцион

Один из самых знаменитых бриллиантов мира, принадлежавший нескольким поколениям французских монархов, будет продан с аукциона в Женеве. Аукционный дом Christie´s не сообщает имя нынешнего владельца: это частное лицо. Эксперты Christie´s оценивают драгоценный камень, носящий название Le Grand Mazarin, в сумму от шести до девяти миллионов долларов.

**ПАСЛЯ ПАДЗЕІ**

## Эдуард ДУБРОЎ,
капітан беларускай зборнай пра фінал Кубка федэрацыі:

# «Гэта не бяда, а вялікі поспех маленькай краіны...»




«Гэта не бяда, а вялікі поспех гэтай маленькай краіны – з 95 краін, удзельніц Кубка федэрацыі, стаць другімі», – *заявіў капітан жаночай зборнай Беларусі па тэнісе Эдуард Дуброў на прэс-канферэнцыі пасля заканчэння фінальнага матча КФ, у якім перамогу атрымала каманда ЗША (3:2).*

«Вельмі рады, што каманда так выступіла, – *адзначыў ён.* – Вялікі дзякуй усім дзяўчатам, якія гулялі ўсе гэтыя гады і дамагліся такога выніку! За гэты час мы сталі як адна сям'я. Думаю, што ў нас добрая будучыня. Ад матча да матча мы гулялі з усё больш моцнымі сапернікамі... Думаю, гледачы ўбачылі добрую гульню сваёй каманды. Яна не расчаравала, а дала ўпэўненасць, што далей павінна быць толькі золата. Мы гуляем для таго, каб перамагчы і заняць першае месца».

«У нас каманда байцоў, якая змагаецца з любым сапернікам. Калі дзяўчаты ўмеюць гуляць з тэнісісткамі з топ-10 і топ-20, то і самі могуць там апынуцца», – *лічыць капітан.*

*На просьбу пракаментаваць прызнанне амерыканскай калегі Кэтлін Рыналдзі аб тым, што ёй было складана перайграць капітана беларускай зборнай, Дуброў адзначыў:* «Я вырас не ў сучасным свеце, а ў савецкай тэніснай школе. Калі я гуляў, даводзілася белыя тапачкі фарбаваць парашком, каб яны зноў былі белыя. Цяпер усё даступна, а тады было жаданне праявіць сябе, таму што інвентар размяркоўваўся сярод лепшых. Таму найбольш здольнымі былі выхадцы з маламаёмных сем'яў».

«Калі я працую з дзецьмі, то гляджу ў іх вочы перад і пасля трэніроўкі. Калі яны гараць і пасля трэніроўкі, толк будзе. У мяне такія былі, і я імі ганаруся», – *сказаў Дуброў.*

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**
(БелаПАН.)

**ЗАКУЛІССЕ**

# Што амерыканцы запомняць пра Беларусь?



Як вядома, два выхадныя дні доўжыўся поўны драматызму фінальны матч Кубка Федэрацыі паміж зборнымі ЗША і Беларусі, у якім амерыканскія тэнісісткі перамаглі – 3:2. Але ж візіт у беларускую сталіцу ім запомніцца не толькі спаборніцтвам на кортах…

Яшчэ напярэдадні гульні амерыканак чакала сумесная вячэра з дзяўчатамі са зборнай Беларусі, на якой спартсменкі паказалі свае здольнасці… у танцах. "Лявоніху" яны "выпісвалі" так грацыёзна, што многія аж пляскалі ў далоні. Зладзілі гаспадары турніру і экскурсію для зборнай ЗША ў Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, пра што тэнісістка **Кока Вандэвеге** выказалася даволі сціпла: *"Спадабалася"*.

А на наступны дзень ля гарадской Ратушы было прадстаўленне з рыцарамі на плошчы, ансамблем сярэднявечнай музыкі ў зале, лучнікамі…

Трэба адзначыць, што разам са зборнай Мінск наведалі і каля 30 амерыканскіх балельшчыкаў. Гэтая "група па інтарэсах" ездзіць з любімай камандай па ўсім свеце, і Беларусь не стала выключэннем. Яны самастойна арганізавалі для сябе турыстычную паездку, некалькі дзясяткаў чалавек жылі ў Мінску асобна ад каманды (тэнісісткі спыняліся ў пяцізоркавым гатэлі "Marriott"), але на "Чыжоўка-Арэне" зліваліся са сваімі кумірамі ў адно цэлае і падтрымлівалі іх так, што часам давалі фору некалькім тысячам беларускіх балельшчыкаў.

Дарэчы, у нядзелю пасля заканчэння матча ніякай святочнай вячэры для каманд не было, хаця кажуць, што ў амерыканак быў настрой адзначыць перамогу.

*"Які там банкет, калі я дома быў амаль апоўначы!* – распавёў "Народнай Волі" **Вадзім Сашурын** – трэнер па фізічнай падрыхтоўцы Арыны Сабаленка. – *Усе былі настолькі стомленыя, што не перадаць словамі. Ды і настрой крыху не той, каб нешта святкаваць"*.

Практычна на наступны дзень пасля матча ўсе разляцеліся. Амерыканкі – дадому, а **Арыну Сабаленка** ўчора ў 8 гадзін раніцы ўжо чакаў самалёт з курсам на Кітай, дзе ў сераду яна стартуе на чарговым міжнародным турніры. А вось яшчэ адна беларуская тэнісістка – **Аляксандра Сасновіч** – вырашыла пасля гэтай гульні паляцець на адпачынак. І гэта правільна – заслужыла!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КОШТЫ

## Ці падаражэюць кватэры?

*Пакупнікі нерухомасці не пагаджаюцца з прапановамі прадаўцоў.*

Апошнім часам кошт квадратнага метра ў сталічных кватэрах, якія прапаноўваюцца на продаж, рэзка вырас – з 1159 да 1172 долараў. Паведамлялася, што двухпакаёвая кватэра ў Мінску ў сярэднім падаражэла аж на 650 долараў. Але сітуацыя аказалася не такая крытычная, як на першы погляд падаецца.

*"Справа ў тым, што найперш прадаўцы рэзка ўзнялі кошт прапановы*, – распавялі "Народнай Волі" ў агенцтве нерухомасці "Твая сталіца". – *Але гэта ўсяго толькі чаканні кліентаў. У рэальнасці ж кошты на нерухомасць засталіся прыкладна на ранейшым узроўні. Можа, у кагосьці і ёсць жаданне прадаць жыллё па высокіх коштах, але пакупнікі на гэта не пагаджаюцца".*

Паводле слоў суразмоўцы, у кастрычніку сярэдні кошт здзелкі на кватэры са стандартнымі спажывецкімі якасцямі складаў 1033 долары за квадратны метр. У верасні – 1027 долараў. Такім чынам кошт змяніўся зусім нязначна.

*"Думаю, у бліжэйшыя некалькі месяцаў цэнавыя ваганні на рынку жылля адбудуцца нязначныя*, – прагназуе эксперт. – *Увогуле, кошты захоўваюцца на адным узроўні ўжо прыкладна два гады".*

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Рубль «отвязался»…

Как-то незаметно, но рубль таки просел к доллару за последние недели на несколько копеек: с 1,93–94, к которым мы уже привыкли как к стабильности, до 1,98–1,99 на 8 ноября 2017 года. Как говорится, медленно, но уверенно. С начала года белорусская валюта по отношению к доллару потеряла 5%. А что будет дальше? Приметный рубеж 2 рубля за «зеленый» возьмем? Хотя, помнится, свыше 22 тысяч за доллар в старых деньгах уже было.

Почему просел? Экспорт вроде бы на 20% подпрыгнул, население продолжает «сливать» валюту, пополняя рынок. За девять месяцев чистая продажа составила 1,5 млрд долларов. В результате банковские валютные депозиты населения уже похудели почти на миллиард долларов. А на бирже, стало быть, все чаще спрос на валюту превышает предложение. Вмешивается ли в торги Нацбанк в виде точечных валютных интервенций – общественности не сообщают. Девальвация белорусского рубля к евро еще существеннее. Так в чем же дело?

Вслед за российским белорусский рубль «отвязывается» от такого важного «стабилизатора», как мировые цены на нефть. Нефть дорожает, а российский и белорусский рубли дешевеют. Цена барреля нефти марки Brent добралась до 64 долларов. С начала октября черное золото подорожало на 16%. Сыграло свою роль соглашение стран ОПЕК и других нефтедобывающих стран, включая Россию, ограничить мировую добычу нефти. Но, видимо, цены на нефть утрачивают роль решающего фактора в курсообразовании российского рубля, а вслед за ним и белорусского собрата. На передний план выходят другие. Кроме экспорта важным источником, приносящим валюту в страну, служит приход иностранных капиталов. Введение новых санкций против России со стороны США уже спровоцировало отток зарубежного капитала с ее фондового рынка. Обострение политических отношений России и США явно не на руку российскому рублю. Соотношение валютной и рублевой массы на белорусском рынке также меняется в пользу последней.

Надо посмотреть, как выглядит «жесткость» денежно-кредитной политики главного регулятора. На 1 января 2017 года денежная база составляла 4579,1 млн рублей, а на 1 сентября – уже 5768,4 миллиона. Рост на 26%. Совсем не слабо. При этом объем наличных денег в обращении возрос за 10 месяцев на 26,2%, а вся рублевая денежная масса увеличилась на 16,6%. За весь 2016 год денежная база увеличилась только на 1,8%. Явно «жесткость» стала размягчаться. Главный регулятор с целью предупреждения всплеска инфляции периодически изымает излишнюю ликвидность в банковской системе. Так, по итогам двух аукционов, состоявшихся 8 ноября, было размещено среди банков облигаций Нацбанка сроком обращения 7 дней на сумму 1,29 млрд рублей и сроком обращения 90 дней на 209 млн рублей. У банков достаточно рублей на корсчетах, хронически мало кредитоспособных клиентов ввиду плохого финансового состояния наших предприятий.

Только с начала года Нацбанк снижал ставку рефинансирования 8 раз и довел ее до 11% годовых, удешевляя кредиты для реального сектора. Дешевле кредиты – их охотнее берут предприятия, глядишь, может, и ВВП разгонится. Но посмотрите, насколько разогналась денежная масса и насколько вырос наш многострадальный ВВП – всего на 1,7%. Нацбанк снижает ставку рефинансирования, потому что снижается инфляция. Уже якобы 4,9% в годовом измерении. Но она снижалась под влиянием сезонных факторов. Созревал урожай, давая все больше овощей и фруктов, люди были в отпусках, снижался потребительский спрос. В августе даже была зафиксирована дефляция. В доли процента, но факт. Однако к Новому году инфляция обычно снова поднимает голову. Пока же получается, что снижению инфляции не сопутствует укрепление курсов белорусской национальной денежной единицы, как это должно быть, а мы видим ее ослабление к ведущим валютам.

Видимо, чтобы подтолкнуть рост ВВП, взоры правительства все чаще обращаются в сторону Нацбанка – «поддай деньжат». Ведь только главный регулятор держит в своих руках денежную эмиссию. Не думает ли Нацбанк вновь «разогреть печатный станок»? К этому есть еще побуждающие факторы. Минфин недобрал денег к плану за полгода по главному налогу – НДС. В казну поступило вместо 50% всего 46,7%. 40% платежей по налогу на прибыль дали всего 5 предприятий – «Беларуськалий», БЖД, «Белоруснефть», Минскэнерго, «Гомельтранснефть «Дружба». А что же тысячи остальных? Недобирает ФСЗН. Тем более что имеются и известные теоретики обоснования резкого увеличения денежной массы в экономике, как в Беларуси (А.Обухович), так и в России (советник Путина академик С.Глазьев). Эдак белорусская национальная денежная единица и вовсе может сорваться в девальвационное пике. Во всяком случае психологический рубеж в 2 рубля за «зеленый» будет, скорее всего, взят до Нового года, как и зарплата в 1000 рублей. Держись, Нацбанк! А то, не дай Бог, на те же грабли…

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

Віктар МАЛЫШЧЫЦ, настаўнік:

# «У Мінску я проста ліквідаваў бы раённыя аддзелы адукацыі…»

Ліст міністру адукацыі Ігару Карпенку настаўніка астраноміі ліцэя БДУ Віктара Малышчыца літаральна ўзарваў інтэрнэт. Сотні праглядаў, перапостаў, дзясяткі каментарыяў…

Малады выкладчык адкрыта сказаў міністру пра тыя праблемы сучаснай школы, якія турбуюць без перабольшвання ўсіх настаўнікаў, але пра якія яны маўчаць. *"Прачытаў сёння, што наш міністр адукацыі Карпенка "фанацее ад фінскай і эстонскай мадэляў"*, – напісаў Віктар Малышчыц на сваёй старонцы ў адной з сацыяльных сетак. – *Ага, праходзілі мы ўжо гэта. У нас тут многія фанацеюць ад розных заходніх мадэляў. Толькі неяк па-свойму фанацеюць. Напрыклад, з сістэмы ЖКГ нам трэба пераняць толькі 100-працэнтную аплату паслуг, а з "фінскай мадэлі" – толькі ліквідацыю гімназій.*

*Таварыш Карпенка, а ці вядома Вам, з чаго горача любімыя Вамі фіны пачыналі? З гіганцкіх укладанняў у абсталяванне школ, з рэзкага павышэння заробкаў настаўнікаў, з перападрыхтоўкі ўжо працуючага персаналу. Цяпер у Фінляндыі сапраўды няма сэнсу шукаць лепшае месца для дзіцяці – у любой школе краіны можна атрымаць якасную адукацыю ад сапраўдных прафесіяналаў гэтай справы.*

*Перад тым як праводзіць сваю геніяльную рэформу, Вы, напэўна, сур'ёзна ўклаліся ў аснашчэнне школ? Не, у многіх з іх доследы па фізіцы і хіміі паказваюць з "Ютуба", бо няма ні абсталявання, ні рэактываў. А рамонты і закупка асноўных рэчаў увогуле адбываюцца за грошы бацькоў.*

*Можа, Вы неяк паспелі павысіць кваліфікацыю настаўнікаў, таму цяпер у кожнай школе будзе выкладанне на найвышэйшым узроўні? Ды не… Вы, напэўна, паднялі заробкі разоў у пяць, і ў бліжэйшы час таленавітыя настаўнікі самі набягуць і запоўняць усе школы да апошняй? Канешне, не – зараз малады спецыяліст без рэгалій, які працуе на стаўку, атрымлівае рублёў 300–400. З такім заробкам Вы не набераце настаўнікаў-прафесіяналаў на ўсе школы Беларусі.*

*…Вырашаць праблемы адукацыі дазвольце тым, хто іх умее бачыць. Запытайцеся хаця б у тых самых фінаў, як гэта зрабіць".*

Ці была рэакцыя з боку міністра на гэты ліст? Можа, пасля свайго смелага ўчынку малады настаўнік ужо застаўся без працы? Ды і ўвогуле, як з'явіўся гэты ліст: так моцна набалела, што не было сілы трываць і не думалася пра наступствы?

– З'явіўся ліст выпадкова, – кажа Віктар Малышчыц. – Пра незадаволенасць многімі рэчамі ў сістэме адукацыі гавораць практычна ўсе настаўнікі. Але чамусьці амаль ніхто з маіх калег не выказвае свайго меркавання публічна, пад сваім імем. Таму я проста ўзяў і напісаў, бо камусьці трэба гэта рабіць.

Але, канешне, такой рэакцыі я не чакаў. Я ж напісаў банальнейшыя рэчы! Ведаў бы, што такі ажыятаж пачнецца, дык напісаў бы больш грунтоўна. Без наездаў і пераходу на асобы, але з большай колькасцю фактаў.

**– Ці была рэакцыя з боку міністра альбо міністэрства на гэты ліст?**

– Мяркую, што была. Толькі вось якая – я наўрад ці даведаюся.

Дырэктар намякнуў мне, што маёй асобай цікавіліся, але, відаць, ліцэй стаў на маю абарону. Бо, пагадзіцеся, я ж выказваў не пазіцыю ліцэя, а сваё прыватнае меркаванне. І рабіў гэта не на ўроку, а ў вольны ад працы час. На ўроках я расказваю вучням пра зоркі і планеты, а не пра праблемы адукацыі.

**– Не баяліся застацца без працы? Раней вальнадумства настаўнікам не даравалі і папросту звальнялі са школы. Так было з настаўніцай гісторыі з вёскі Талька Наталляй Ільініч, з настаўніцай грамадазнаўства са Светлагорска Аленай Маслюковай…**

– Напэўна, калі б я працаваў дзе-небудзь у Тальцы, то сёння ўжо забіраў бы працоўную кніжку. Больш таго, ведаю, што ў некаторых сітуацыях можна атрымаць ад вышэйшага начальства "чорную метку", пасля чаго ты не тое што настаўнікам – нават дворнікам у гэтым раёне не ўладкуешся.

Але, на шчасце, я працую ў ліцэі БДУ, калектыў якога складаюць не толькі прафесіяналы сваёй справы, але яшчэ і вельмі сумленныя людзі. Я і раней не раз хваліў адміністрацыю ліцэя за мудрыя і прадуманыя рашэнні. Спадзяюся, што і ў бліжэйшай, і ў далёкай будучыні маё меркаванне аб іх не зменіцца. Але калі б нават і давялося згубіць працу, гэта не стала б для мяне вялікай трагедыяй.

Для мяне школа – гэта хутчэй праца "для душы", за школьны заробак я сям'ю не пракарміў бы. Таму, застаўшыся без працы, знайшоў бы сабе іншы цікавы і больш прыбытковы занятак. Ды і ў школу, думаю, таксама можна было б вярнуцца – у Мінску шмат школ, дзе-небудзь абавязкова ўзялі б.

**– Вы напісалі, што "малады спецыяліст без рэгалій, які працуе на стаўку, атрымлівае рублёў 300–400". А ў вас які заробак? Вы ўсё ж такі выкладаеце ў найпрэстыжнай сярэдняй навучальнай установе краіны.**

– Не магу адказаць. Але не таму, што гэта нейкая таямніца, я проста сапраўды не паспеў ні разу пацікавіцца велічынёй заробку. Справа ў тым, што разам з ім я атрымліваю і грошы на дзяцей – іх у нас з жонкай трое – і таму не ведаю, якую частку з гэтай сумы складае мой заробак. Але ведаю, што лічба гэта больш чым сціплая. Справа ў тым, што нагрузка ў мяне маленькая, усяго 8 гадзін: праца ў школе – гэта хутчэй хобі для мяне. І прэстыжнасць навучальнай установы ніяк на гэта не ўплывае, настаўнікі ліцэя БДУ зарабляюць столькі ж, колькі і іх калегі з іншых школ. Праўда, у ліцэі ёсць магчымасць падпрацоўкі на вячэрніх платных курсах – там аплата крыху вышэйшая.

**– Праца ў школе – хобі? А на што жывяце?**

– На жаль, я не настолькі багаты, каб працаваць у школе на 1–2 стаўкі, таму асноўны даход мне прыносіць фатаграфія.

**– Віктар, калі б да вас звярнуліся з просьбай выкласці сваё бачанне сучаснай школы, што б вы сказалі? Што пакінулі, а што катэгарычна выкраслілі б?**

– Мне цяжка сказаць пра бачанне сучаснай і актуальнай школы, бо нам да гэтага яшчэ ох як далёка. Я лепш скажу бы, што можна змяніць без асаблівых фінансавых затрат проста зараз.

Па-першае, трэба пазбавіць настаўнікаў ад любых лішніх абавязкаў. Настаўнік павінен вучыць, а не запаўняць кучу паперак, маніторыць сацыяльна небяспечныя сем'і, правяраць пячное ацяпленне, дзяжурыць на дыскатэках і нават на вадаёмах узімку… Думаю, у кожнай школе ёсць свой доўгі спіс той дурноты, якую вымушаны рабіць настаўнікі.

Па-другое, трэба знізіць колькасць праверак школ да мінімуму. Колькасць правяраючых арганізацый зашкальвае, школы кожны месяц трасуцца перад чарговай праверкай. І калі, здавалася б, усё прыведзена ў ідэальны парадак, ты ўсё роўна атрымаеш заўвагу. Напрыклад, за тое, што паставіў кропку ў канцы дамашняга задання ў журнале.

Акрамя таго, трэба істотна зменшыць колькасць чыноўнікаў, якія над настаўнікам стаяць. Напрыклад, у тым жа Мінску я проста ліквідаваў бы раённыя аддзелы адукацыі. Бо, калі чыноўнікаў зашмат, замест думак аб адукацыі яны пачынаюць рэгламентаваць колер вопраткі і вышыню кветак на вокнах.

Па-трэцяе, дзеці ў школе павінны вучыцца, а не быць біяматэрыялам, якім можна затыкаць розныя дзіркі. Бульбу на палетках няхай убіраюць камбайны і работнікі сельгаспрадпрыемстваў. Газету «Коммунист Беларуси» няхай выпісваюць камуністы. На хакей няхай ходзяць заўзятары гэтага віду спорту. Калі ж мы лічым, што школьнікі павінны наведваць розныя мерапрыемствы для ўсебаковага развіцця, то няхай яны самі выбіраюць, куды ісці, а не ідуць па спісах на тое, на што не прадаліся білеты.

Гэта, канешне, далёка не ўсё. Істотны прарыў зможа адбыцца толькі тады, калі настаўнікі будуць мець высокія заробкі і ў педагагічныя ВНУ стануць паступаць не толькі тыя, каго больш нікуды не ўзялі. Але ў цяперашніх абставінах такое проста немагчыма імгненна зрабіць, таму трэба пачынаць хаця б з малога.

**– Вы супраць планаў Мінадукацыі па рэфармаванні гімназій. Чаму, на ваш погляд, гімназіі трэба пакінуць?**

– На жаль, нізкія заробкі і нізкі прэстыж прафесіі настаўніка прывялі да таго, што мы не можам забяспечыць усе школы высакакласнымі спецыялістамі. Я выкладаю астраномію і бачу, што ва ўсім горадзе зусім няшмат настаўнікаў, якія сапраўды глыбока ведаюць свой прадмет. Таму раз мы не можам укамплектаваць усе школы лепшымі з лепшых, то давайце хаця б будзем збіраць такіх людзей у гімназіях, ліцэях, профільных класах. І дадзім магчымасць адораным, матываваным вучням трапляць туды не толькі тады, калі пашанцавала з прапіскай, але і дзякуючы сваім ведам.

Дарэчы, "ліквідацыю" гімназій у міністэрстве апраўдваюць тым, што гэта істотна знізіць карупцыю. А на мой погляд, гэта толькі дасць ёй старт. Бо цяпер атрымліваецца, што калі ты не прыпісаны да гімназіі, то патрапіць туды зможаш толькі праз хабар.

**– На вашу думку, ці магчыма спыніць дзеянні Мінадукацыі па рэфармаванні гімназій?**

– Канешне! Калі будзе шмат шуму, да нас абавязкова прыслухаюцца. Мы маем ужо такія прыклады. Але не варта забываць, што Мінадукацыі тут вырашае далёка не ўсё. Ёсць цяпер жадаючыя паруліць адукацыяй і вышэй за міністра.

**– Віктар, ведаючы пра праблемы сучаснай школы, чаму вырашылі стаць настаўнікам? Гэта быў свядомы выбар?**

– Так, мне заўсёды хацелася кагосьці навучыць свайму любімаму прадмету. І хацелася рабіць гэта па-беларуску. Я шчаслівы, што цяпер мне ўдаецца і першае, і другое.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# КАК ПЕРЕЖИТЬ КАПРЕМОНТ?

*(Окончание. Начало в №№88, 89.)*

…Когда-то по всей стране летом отключали горячую воду для проверки и ремонта теплотрасс – и аж на месяц. И все думали: иначе же никак! Теперь, оказывается, теплотрассы можно проверить и за две недели. И никто не будет страдать, нагревая по утрам и вечерам кастрюли и мисочки, чтоб помыть посуду и принять некое подобие душа. В далекие советские времена все продуктовые магазины закрывались на обед. Как и аптеки, отделения почты и банка. Позднее выяснилось, что надо исходить из удобства потребителя услуг. Нецивилизованно создавать ему искусственные сложности. Теперь окошки в аптеках, на почте или в банке закрываются на техперерыв или обед по очереди, а не все сразу.

Поскольку капремонт все-таки делается для жильцов, а не для ремонтных организаций, он не должен быть мучением, головной болью, тяжким и непреодолимым испытанием. Может, специалисты и могут предложить какой-то путь для укорачивания сроков. Но, на мой взгляд, перед началом ремонта должен заключаться договор между владельцем квартиры и РСУ, в котором оговаривались бы конкретные сроки: месяц-два, но не полгода! Вы опаздываете, не успеваете? Все сроки прошли? Тогда начинает «капать» пеня! И отчисления от конкретного гражданина ремонтной организации будут значительно меньше. Мне кажется, подход, завязанный на деньгах, сильно дисциплинирует. Иначе получается, что идет игра в одни ворота – жильцов квартир. Мы начали ремонт? Значит, скажите нам спасибо и терпите! В Германии еще 20 лет назад как-то умудрялись делать капремонт всего за пять (!) дней. У нас так не будет никогда? Не сможем?

### Каждый платит за себя? А почему бы и нет!

Деньги любят счет, а граждане – прозрачность их использования. В одной из недавних публикаций отечественных СМИ, посвященных модернизации старого жилья, утверждалось: раньше капремонт на 50 процентов оплачивался из бюджета, а на 50 – гражданами. А теперь 60% – город, а 40% – граждане. Но простите: а бюджет города не складывается из налогов, которые платят граждане и конкретные предприятия?

Суммы, которые поступают от каждой жировки со всего Минска, не маленькие, не копеечные. Они огромные. Поэтому хотелось бы знать: сколько стоят материалы, которые используются при капремонте? Какая зарплата и премии у ремонтных рабочих, инженеров и прорабов? Может, эти цены и суммы сильно завышены? Предполагаю, в штате каждого РСУ есть заместитель директора по идеологии, который, наверное, учит, как идеологически правильно класть тротуарную плитку. Раздутые штаты и ненужные сотрудники, которые тем не менее получают зарплату, тоже влияют на стоимость работ.

И последнее предложение. Жильцы многих домов, которые оплачивают будущий капремонт, вполне возможно, его и не дождутся. Как тот, кто стоит в очереди на жилье, может его не дождаться. Цитирую официальные источники: «По данным Белстата, на начало 2015 года в Беларуси в очереди на жилье были зарегистрированы более 740 тысяч граждан. Больше всего в Минске – 231 тысяча, в каждой из областей – от 65 до 105 тысяч". Сведения более свежие, март 2017 года: «Статистику сообщает БЕЛТА, ссылаясь на Мингорисполком. В Минске на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий в администрациях районов состоят 208.472 семьи". Да, жилье строят, но, как поется в известной песне, «люди встречаются, люди влюбляются, женятся». А потом у них появляются дети, и в доме родителей или в общежитии становится тесно.

Почему бы не поменять схему финансирования капремонта? Когда и в каком доме будет делаться ремонт, это известно заранее. Приехала комиссия, посчитали количество квартир, площадь стен, количество окон в подъездах, которые надо менять. Подсчитали объем и стоимость работ, поделили стоимость работ внутри квартир на количество квартир. И каждая семья платит за ремонт именно своих метров. Тогда ясно, в какую сумму это обходится конкретной семье. Тем более перечень работ, входящих в капремонт, в последние годы существенно сократился. Распишите эту сумму на два-три-пять лет. И «вбивайте» в жировку конкретному гражданину. И все будет отлично! За все, что за пределами квартиры (подъезды, лифты, площадки между этажами) и дома, платит город.

Предполагаю: те, кто организовывает и контролирует капремонт жилого фонда, не очень-то согласятся с такой постановкой вопроса. Отчисления на капремонт, которые идут десятилетиями, – это бесконечный источник пополнения бездонной городской казны. Да вроде и граждане уже привыкли к такой графе расходов. А что жильцы могут ремонта и не увидеть, кого касается? Самих граждан!

Время от времени в интернете мне, как, наверное, и многим попадаются статьи, в которых дизайнеры рассказывают о строительстве загородного жилья (правда, оно далеко не всем по карману), о том, как сделать современный ремонт с помощью самых лучших отделочных материалов, как улучшить планировку городских квартир. Рядом фото, которые вызывают восхищение и легкую зависть. Красиво и современно, жилье XXI века. А неотремонтированные подъезды – это каменный век?

Хотелось бы, чтобы тема капитального ремонта, особенно его сроков и стоимости, была каким-то образом продолжена на страницах «Народной Воли». Может, в виде «круглого стола» с участием заинтересованных лиц. Предполагаю, чиновники будут с гордостью рассказывать, какое количество квадратных метров модернизировано, какие они молодцы и как мы все должны их за это благодарить. И все-таки любопытно узнать: какой процент минского жилого фонда, которому больше 30 лет, уже имеет современный и модернизированный вид, а какой нет? Сколько лет нужно, чтобы привести в порядок все остальное? И реально ли это при теперешних темпах? В XXI веке все-таки хочется жить в цивилизованной среде, а не в бомжатнике и не в гетто.

**Светлана ПЕТРОВСКАЯ.**



ВЕРСІЯ

## На гарызонце партыя «Белая Русь»?

### І парламенцкія выбары па змяшанай сістэме?

Як вядома, 23 лістапада адбудзецца III з'езд грамадскага аб'яднання "Белая Русь". Ёсць інфармацыя, што на ім плануецца стварыць ініцыятыўную групу па ператварэнні арганізацыі ў партыю. Да чаго гэта прывядзе ў далейшым? Палітычны аглядальнік Арцём Шрайбман на такое пытанне дае наступны адказ: *"Стварэнне партыі на аснове "Белай Русі" можа стаць першым крокам пераходу да змешанай сістэмы камплектавання парламента"*. Гэта значыць, што ў рэспубліцы ўзрасце роля палітычных партый.

Калі "Белая Русь" стане партыяй, то, зразумела, сённяшні кіраўнік грамадскай арганізацыі 66-гадовы Аляксандр Радзькоў на ролю лідара можа і не падысці. Неабходна маладая кроў, і яна ёсць: Сяргею Пігараву і Аляксандру Шацько, якія сёння з'яўляюцца намеснікамі Радзькова, усяго крыху за пяцьдзясят.

Актывізацыя палітычнага жыцця ў бліжэйшы перыяд будзе абумоўлена не толькі стварэннем партыі "Белая Русь", але, што не выключана, правядзеннем рэферэндуму наконт унясення ў Канстытуцыю пэўных змен.

Эксперты лічаць, што пасля гэтага ў парламент могуць трапіць прадстаўнікі шэрагу партый. Вядома ж, той жа "Белай Русі", КПБ, ЛДПБ і, магчыма, "Гавары праўду!", калі сённяшні рух ператворыцца ў партыю. Адзін з яе лідараў Андрэй Дзмітрыеў не сумняваецца ў гэтым: "Мы станем партыяй. Зараз збіраем людзей, прапрацоўваем праграму. За апошнія тры месяцы да нас далучылася каля 160 чалавек. І мы не спынімся".

На думку лідара АГП Анатоля Лябедзькі, беларускі парламент, які будзе фарміравацца па змяшаным прынцыпе, стане нагадваць Дзяржаўную Думу Расійскай Федэрацыі, і без сапраўдных змен у Выбарчым заканадаўстве апазіцыйныя палітычныя партыі ў яго проста не патрапяць.

Аднак упершыню за доўгі час новыя зрухі ў палітычнай сістэме могуць усё ж актывізаваць шырокую грамадзянскую супольнасць, што замацуе дэмакратычныя парасткі ў краіне.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ПРОШУ СЛОВА!

# ЛИШЕНЕЦ

Я, гражданин Республики Беларусь, ветеран труда, пенсионер, прадед с 2000 года, чиновниками различных органов и организаций за короткий срок был пять раз лишен права переписки. Когда решение о лишении такого права принимают органы исполнительной власти, удивляться не приходится, ведь само слово «исполнительная» подчеркивает, что она делает то, что ей предписано сделать. Поэтому давать оценку действиям чиновников исполнительной власти – занятие бесперспективное, особенно если вспомнить гениальный афоризм М.Жванецкого: «*Каждый народ имеет такое правительство, которое его имеет*». Обижаться на такую власть, как на проказы ребенка, не следует.

Хочу все же поделиться особыми впечатлениями о том, кто, как и когда лишал меня права переписки с разными госорганами.

| Дата | № документа | Занимаемая должность | Ф.И.О. |
|---|---|---|---|
| 16 сентября 2015 г. | 04-30-15/180 | первый заместитель министра ЖКХ | Поскробко О.Г. |
| 6 июня 2016 г. | 6-7-3602/2 | управделами Мингорисполкома | Котов Н.А. |
| 13 июля 2016 г. | 01-02-01/30 | зам.председателя Конституционного суда РБ | Сергеева О.Г. |
| 8 ноября 2016 г. | 04-23-15/С-2258/2 | первый заместитель министра ЖКХ | Поскробко О.Г. |
| 20 сентября 2017 г. | 6-7-3092/2 | первый заместитель председателя Мингорисполкома | Римашевский Ф.В. |

Вплоть до 1936 года лишенцами называли граждан СССР, лишенных избирательных и других гражданских прав. Я, Бог миловал, лишен только права переписки, но горьковатый осадок после таких процедур все же остается.

Как чиновникам удается лишать граждан этого права, несмотря на Директиву президента №2 от 27 декабря 2006 года «О дебюрократизации государственного аппарата и повышении качества обеспечения жизнедеятельности населения» и Закон РБ от 18 июля 2011 года №300-З «Об обращениях граждан и юридических лиц»? Очень просто! Почти по Райкину: вопрос задается о насосах – отвечают о колесах. Естественно, человек, получивший подобный ответ, обращается повторно, не подозревая о том, что попадает в ловушку. Чиновник, строго соблюдая этику переписки, пишет примерно так: «Что же Вы, уважаемый товарищ, повторно обращаетесь по одному и тому же вопросу? У Вас что, толстая кость во лбу? Вы что, не понимаете, что Вам дан вразумительный ответ в установленный законом срок? Поскольку в Вашем обращении не приводятся новые доводы, переписка с Вами по данному вопросу прекращается». И куда после этого идти и кому жаловаться?

Но не все так мрачно. Если раньше, например, судьи Конституционного суда принимали граждан по личным вопросам один раз в месяц, то сегодня они это делают по средам еженедельно, причем строго с 8 часов утра. Правда, начиная с 1995 года по сей день мне не удалось с помощью Конституционного суда решить ни один вопрос, но организационный прогресс налицо. Как и удивительные по смыслу, впечатляющие по объему и категоричные в выводах ежегодные послания Конституционного суда президенту и парламенту – информация о состоянии конституционной законности в стране. Читаешь эти документы, и слезы на глаза наворачиваются. Оказывается, из года в год дела с конституционной законностью у нас идут все лучше и лучше. Денно и нощно трудятся судьи на благо народа. Приведу лишь одну выдержку из Послания за 2016 год:

*«Верховенство права предполагает, что деятельность государственной власти должна быть направлена на защиту достоинства личности, которое является врожденным, неотъемлемым и неотчуждаемым свойством человека. Достоинство как важнейшая социально-культурная характеристика сущности человека, а также конституционно-правовая и нравственно-этическая категория выступает одним из стержневых факторов демократического, социального, правового государства».*

Здорово сказано, не правда ли? Но куда должен обращаться гражданин, если на его достоинство наплевали, если его обращения приравниваются к бреду сивой кобылы? Конечно, туда, где родилась эта по сути правильная, но несколько запутанная трактовка того, что должно быть. В Посланиях иногда высказываются дельные мысли. Например:

«*Поступающие в государственные органы, в том числе и в Конституционный суд, обращения граждан обязывают государственные органы и должностных лиц осуществлять свою деятельность с учетом нужд и запросов граждан. Рассмотрение обращений показывает, что граждане вынуждены обращаться в Конституционный суд, так как в других инстанциях их обращения не получили своевременного и надлежащего правового разрешения*».

Если к этому добавить требования статьи 2 Конституции РБ, торжественно провозглашающей, что «*человек, его права и свободы и гарантии их реализации являются высшей ценностью и целью общества и государства*», и требования статьи 6 Кодекса РБ «О судоустройстве и статусе судей», определяющие, что «*Конституционный суд призван защищать конституционный строй Республики Беларусь, права и свободы человека и гражданина*», то обращения граждан в высший суд за защитой своих прав становятся понятными, естественными и обоснованными. Кроме того, в статье 158 Закона Республики Беларусь «О конституционном судопроизводстве» сказано: «*Основанием для возбуждения производства по делу об устранении в нормативных правовых актах пробелов, исключении в них коллизий и правовой неопределенности являются поступившие в Конституционный суд обращения… граждан… содержащие информацию о наличии…*» Более того, производство по делу об устранении всего перечисленного может быть возбуждено Конституционным судом по собственной инициативе.

Мне казалось, что если гражданин выявил в нормативных правовых актах недоработки, то все те чиновники, которые причастны к их появлению, должны быть ему благодарны, поскольку любая недоработка – это дискредитация власти, это ее позор. Не лишним была бы, на мой взгляд, разработка системы поощрения тех, кто умеет читать законы, логически мыслить и по достоинству оценивать их суть.

С верой в провозглашенное я неоднократно обращался в Конституционный суд за защитой попранного права на бесплатную приватизацию жилья. Несмотря на указанные в обращениях коллизии и неопределенности, прописанные в нормативных правовых актах, касающихся жилищных отношений, 13 июля 2016 года переписка со мной была прекращена. Документ подписан заместителем председателя Конституционного суда.

3 октября текущего года при президенте состоялось совещание, на котором обсуждался вопрос о новой редакции Жилищного кодекса нашей страны. Президент отметил: «*Дело дошло до парадокса: нормы указов и нормы кодекса противоречат друг другу*». Надеюсь, слова главы государства возымеют действие, мой вопрос решится автоматически и я доживу до того дня, когда лишавшие меня права переписки чиновники принесут мне свои извинения.

**Леонид СКАЛУБО, ветеран труда.**

*Минск.*

ЧУЛІ?

## Улады зацікавіліся заробкамі банкіраў

Нацыянальны банк сабраў у камерцыйных банкаў звесткі пра заробкі іх кіраўнікоў. Паводле інфармацыі БелаПАН, беларускія банкі далі звесткі пра зарплаты, гадавыя бонусы, а таксама прэміі, атрыманыя топ-менеджарамі ў 2015–2016 гадах і студзені–верасні гэтага года. Нацбанк таксама сабраў у топ-менеджараў камерцыйных банкаў звесткі пра ключавыя паказчыкі эфектыўнасці іх дзейнасці. Усю гэтую інфармацыю рэгулятар атрымаў у прадстаўнікоў камерцыйных банкаў у межах падрыхтоўкі нарады ў Аляксандра Лукашэнкі па асобных пытаннях дзейнасці банкаўскай сістэмы, якая запланавана ў лістападзе.

*«Тэма зарплат банкіраў на дзяржаўным узроўні актуалізавалася некалькі гадоў таму на фоне праблем у эканоміцы і высокіх працэнтных ставак па крэдытах. Пасыл быў такі, што эканоміка бядуе з-за дарагіх крэдытаў, таму што банкіры атрымліваюць высокую зарплату»*, – адзначыў эксперт у фінансавых колах.

*«Сітуацыя, калі замежныя акцыянеры не змогуць выплачваць топ-менеджарам беларускіх банкаў жаданае ўзнагароджанне, стварае глебу для кулуарных дамоўленасцяў. Можа дайсці да таго, што беларускія банкіры будуць атрымліваць асноўную частку ўзнагароджання за мяжой і траціць гэтыя грошы там жа»*, – сказаў суразмоўца БелаПАН у фінансавых колах.

Эксперты прагназуюць, што ў выпадку дырэктыўнага вызначэння зарплат топ-менеджараў камерцыйных банкаў можа пачацца адток кваліфікаваных кадраў з сістэмы.

СІТУАЦЫЯ

# Дом гніе…

Ужо шмат гадоў жыхары дома №1, што па вуліцы Горкага ў вёсцы Крулеўшчына Докшыцкага раёна, пакутуюць ад затаплення. Пасля моцнага дажджу або багатага снегападу зайсці ў падвальнае памяшканне нельга. Праблема ў тым, што агароды жыхароў, якія знаходзяцца пад вокнамі, узвышаюцца над цокалем дома. У выніку ўся вада цячэ ў склеп. Мясцовыя камунальныя службы перыядычна адпампоўваюць яе, але гэта дапамагае толькі часова.

З-за пастаяннай вільготнасці ў кватэрах (асабліва ў жыхароў першых паверхаў) адклейваюцца шпалеры, раз-пораз патрабуецца рамонт.

– *Дом быў пабудаваны для работнікаў ПМК-3,* – кажа мясцовы жыхар Барыс Пугаўка. – *Спачатку ўсё было нармальна. Але пазней ён стаў належаць камунальнай гаспадарцы, і жыхары сталі свавольнічаць. Прывозілі торф, каб зрабіць грады, і паднялі іх на паўметра, а адвод вады ніхто не зрабіў. Яна ў склеп і пайшла.*

Сёння ў доме пражывае 12 сем'яў. Барыс Пугаўка, напэўна, самы актыўны жылец. Вось толькі ініцыятыўнасць мужчыны не ўсім суседзям прыходзіцца па душы, і адносіны паміж жыхарамі, мякка кажучы, няпростыя. Некаторыя нават, паводле слоў Пугаўкі, звярталіся ў міліцыю са скаргамі.

Барыс Баляслававіч, дарэчы, былы маёр міліцыі: каля 20 гадоў адпрацаваў на чыгунцы, а потым быў запрошаны на службу. Праўда, мінулыя заслугі праблему затаплення вырашыць так і не дапамаглі. На думку Барыса Пугаўкі, усім жыхарам трэба выконваць Жыллёвы кодэкс. У сваю чаргу адны суседзі лічаць, што сітуацыю выратуе толькі ўстаноўка дрэнажу, а другія проста не вераць у спрыяльны зыход: маўляў, за столькі гадоў неаднаразова прыязджалі чыноўнікі і спецыялісты, але вада і цяпер там.

– *У нашым доме ўсім камандуе Пугаўка,* – эмацыйна кажа гаспадыня кватэры на першым паверсе Вера Фёдараўна. – *Захацеў выкапаць канавы каля дома – прыехалі з ЖКГ і выкапалі. Цяпер, калі ідуць дажджы, у іх стаіць вада. Зараз ён хоча, каб усе жыхары капалі канавы, якія нічым не дапамогуць.*

– *Праблема ў тым, што дом пабудаваны з парушэннямі,* – далучаецца да нашай гутаркі сусед Анатоль. – *Тут павінен быць дрэнаж, які не паклалі. Трэба пракладваць жалезную трубу, каб сцякала вада, але ніхто гэтым не займаецца.*

Паводле слоў мясцовых жыхароў, сёння за камунальныя паслугі яны плацяць больш за 50 рублёў за месяц. У абяцанні мясцовых улад аказаць дапамогу ў вырашэнні праблемы людзі ўжо не вераць.

– *Стваралася камісія, некалькі разоў прыязджалі спецыялісты,* – кажуць жыхары праблемнага дома. – *Абяцалі, што ўсталююць трубу і вады не будзе, але ўсё на словах так і засталося. Вада ў склепе, дом гніе, а нікога з чыноўнікаў гэта не хвалюе. Толькі бачнасць працы ствараюць.*

Размова паміж жыхарамі дома па вуліцы Горкага ў вёсцы Крулеўшчына была вельмі эмацыйнай. На прапановы не лаяцца, а аб'яднаць намаганні і дамагацца вырашэння праблемы, людзі адмахваліся.

Адным словам, праўда ў кожнага свая, а вада ў склепе так і застаецца.

АФІЦЫЙНА

### Іван ківае на Пятра…

Сітуацыю, якая склалася, «Народнай Волі» пракаментаваў дырэктар раённага ўнітарнага прадпрыемства ЖКГ «Докшыцы-камунальнік» **Дзмітрый Каляга**.

– Чалавек, які скардзіцца, сам будаваў гэты дом, – *адказаў Дзмітрый Сцяпанавіч.* – Хай ён зараз і скажа, як будавалі. Як рабілі гідраізаляцыю? Мы прынялі гэты дом ужо з недахопамі.

**– З пункту гледжання спецыяліста, як можна вырашыць праблему з затапленнем?**

– Адпампоўваць ваду са склепа. Адмостка там нармальная, але прапускае гідраізаляцыя падмуркавых блокаў, якая зроблена няякасна. Барыс Баляслававіч прапануе прыбраць чарназём, і тады вада перастане паступаць, але калі няма гідраізаляцыі, то вада ў любым выпадку пойдзе туды.

Праблема не толькі ў вадзе і гідраізаляцыі, але і ў суседзях. Яны паміж сабой ваюють ужо каторы год. Колькі я працую, столькі праблема ў адносінах паміж імі існуе.

Я не адмаўляюся ад таго, што вада ў склепе. Яна перыядычна там бывае, мы яе ад дома адводзім (на днях выязджалі), чысцілі канаўкі, каб яна адыходзіла ад падмурка, сустракаліся з жыхарамі. Тое, што мы можам зрабіць, мы робім.

**– А ўстаноўка дрэнажу можа дапамагчы?**

– Але колькі гэта будзе каштаваць? Ёсць шэраг спосабаў, але на сённяшні дзень мы не можам такія выдаткі панесці менавіта па гэтым доме.

**– Нельга выдаткаваць патрэбную суму з бюджэту?**

– Сродкі на бягучы рамонт жылфонду вылучаюцца з абласнога бюджэту (ён абмежаваны). Раённы бюджэт датацыйны.

### «Вада ў склепе і ў маім доме»

*Сваё меркаванне наконт дома па вуліцы Горкага мы таксама папрасілі выказаць старшыню сельсавета ў Крулеўшчыне **Алену Таляронак.***

– Наконт праблемы ў гэтым доме стваралася камісія, прыязджалі спецыялісты, – *сказала Алена Мікалаеўна.* – Праблема з вадой вырашаецца ўжо доўгі час: рабілася адмостка, падсыпкі. Для таго каб вада не паступала, рабіліся пэўныя захады з боку ЖКГ.

Аб гэтай сітуацыі я ведаю, неаднаразова праводзіліся сустрэчы з жыхарамі. Усе звароты, якія былі, не заставаліся незаўважанымі. Пры дажджлівым надвор'і вада адпампоўваецца.

Я разумею, што гаворка не пра маё прыватнае жыццё, але цяпер і ў маім доме вада ў склепе. Складана не давяраць спецыялістам, якія кажуць, што пры будаўніцтве таго дома была допушчана тэхнічная памылка.

***

Дзіўная сітуацыя, ці не праўда? XXI стагоддзе, а звычайная бытавая праблема становіцца невырашальнай. Ні на раённым, ні на абласным узроўнях. Няўжо гэта справа ўрада? Калі так, то навошта столькі чыноўнікаў сядзяць у кабінетах Докшыцаў і Віцебска?

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

*Докшыцкі раён*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Павел МАРОЗАЎ:

# «Пакуль не час для вяртання дадому…»

*Палітуцякач з Беларусі і адзін з лідараў беларускай дыяспары ў Эстоніі распавёў пра "справу "Мультклуба" і магчымасць вяртання ў Беларусь.*

Нагадаем, што яшчэ ў жніўні 2005 года пракуратура Мінска распачала крымінальную справу па факце распаўсюджвання ў інтэрнэце мультфільмаў, «якія ганьбяць гонар і годнасць прэзідэнта Беларусі». Крымінальны кодэкс прадугледжваў пакаранне за падобнае злачынства ў выглядзе пазбаўлення або абмежавання волі на тэрмін да пяці гадоў.

У рамках крымінальнай справы ў якасці сведак былі дапытаны адміністратар сайта Андрэй Абозаў і каардынатар праекта Павел Марозаў. Супрацоўнікі КДБ правялі ў іх кватэрах вобшукі, канфіскавалі 12 адзінак камп'ютарнай тэхнікі, на якіх маглі стварацца мультфільмы. Усе фігуранты "справы "Мультклуба" не сталі чакаць арыштаў і выехалі ў сумежныя краіны. **Павел МАРОЗАЎ** папрасіў палітычны прытулак у Эстоніі, дзе жыве і працуе да гэтага часу.

**– Наколькі мне вядома, у Беларусі к**рымінальная справа прыпынена, але дакладна не закрыта, – распавядае Павел. – Праўда, не ведаю, колькі часу яна можа цягнуцца. Магчыма, чакае майго прыезду ў Беларусь, каб ізноў распачацца. У Эстоніі я па-ранейшаму – палітуцякач і грамадзянін Беларусі, хоць жонка і дзеці маюць эстонскае грамадзянства.

**– Апошнім часам многія вяртаюцца ў Беларусь з палітычнай эміграцыі…**

– Неяк ужо казаў, што вярнуцца, безумоўна, можна. Улады ўзрадуюцца, затрымаюць, магчыма, нават адпусцяць пад падпіску аб нявыездзе ды возьмуць пад кантроль. Вольна жыць і працаваць не атрымаецца. Шчыра скажу, я ў такім развіцці падзей не зацікаўлены. У Эстоніі, дарэчы, я таксама шмат раблю для Беларусі, з'яўляюся адным з лідараў беларускай дыяспары. Думаю, яшчэ надыдзе час, калі я змагу вярнуцца дадому і прынесці карысць краіне і грамадству.

**– Ці цікава Эстоніі тое, што адбываецца ў Беларусі?**

– Мне падаецца, што толькі пэўнай частцы насельніцтва. Беларускай дыяспары, бізнесу, які мае свае інтарэсы ў Беларусі, ваенным, якія думаюць пра бяспеку Эстоніі і абарону ад Расіі. І, натуральна, дыпламатам.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Экс-намеснік кіраўніка Партызанскага раёна Мінска атрымаў дзевяць гадоў турмы

Суд Першамайскага раёна Мінска вынес рашэнне па справе былога намесніка кіраўніка адміністрацыі Партызанскага раёна Мінска **Мікалая Петрамовіча.**

Былы чыноўнік асуджаны да 9 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Пракурор падчас спрэчак прасіў прызначыць абвінавачанаму 10 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем у калоніі строгага рэжыму.

Мікалай Петрамовіч з 2008-га па 2016 год ашуканскім шляхам пад рознымі падставамі завалодаў грашыма больш як 30 чалавек – на суму звыш 1 млн рублёў. Грашовыя сродкі браў у знаёмых, у тым ліку нібыта для перадачы хабару службовым асобам для вырашэння кватэрнага пытання грамадзян, на развіццё аўтамабільнага бізнесу.

Наша Ніва

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

*Кажуць, не той народны артыст,
хто атрымаў гэтае званне па нейкім загадзе,
а той, хто сапраўды з народа і з народам.
Харэограф Мікола Котаў – якраз такі чалавек.
Усё сваё жыццё ён займаецца выключна народным
мастацтвам у розных яго праявах.
Размеркаваўшыся на пачатку 1960-х
у Тураў, здзейсніў там сапраўдную культурную
рэвалюцыю, стварыў у горадзе і раёне
аж некалькі (!) народных ансамбляў.
Не супакоіўся і ў Мінску. Пісаў кнігі,
вёў на тэлебачанні "Вячоркі", выкладаў
ва ўніверсітэтах і нават здымаўся ў кіно,
сыграўшы 14 роляў!
Цяпер Мікола Котаў на пенсіі, але ў свае
76 – маладзейшы за іншага маладога: спявае,
танцуе, робіць шпагат... І па-ранейшаму стварае.
Гэтым разам – народны тэатр "Матуліна хата".
Акурат пасля рэпетыцыі мы і сустрэліся
з Мікалаем Конанавічам у яго сціплай
аднапакаёўцы сталічнага шматпавярховіка.*





Мікола КОТАЎ:

# «...Каб і ў сто – спяваць і танцаваць!»

**– Мікалай Конанавіч, вы, напэўна, ведаеце, што ў рэдакцыю "Народнай Волі" напісалі вашы суседзі з просьбай расказаць пра вас як цудоўнага чалавека. Па шчырасці, мяне гэта здзівіла. Часам не тое што як звацьі – нават не ведаеш, як выглядаюць людзі з твайго пад'езда...**

– Так мы ж тут усе знаёмыя! Наш дом будаваўся спецыяльна для работнікаў культуры. Як засяляліся, я рабіў уваходзіны – пелі, танцавалі, кожны пад'езд частаваў, на двары зрабілі невялічкую сцэну. А на Каляды я казу па доме вадзіў. Жывую – з Капыля прывезлі. Пасяліў яе ў ванне – жыла там тыдзень, як у нумары люкс.

**– Карацей, вы, як тое сена на асфальце ў Стральцова, гарадскім да канца так і не сталі...**

– Я заўсёды жартую, што ў Мінску я ў камандзіроўцы, хаця тут з 1988 года. І шмат жа дзе быў, паездзіў – ад Эфіопіі да Амерыкі, а ўсё роўна хочацца на вёску! Зараз яна бедная, няшчасная, але жыццё – там.

**– І з тымі ж песнямі?**

– На жаль... Калі я ў 1964 годзе прыехаў у Тураў – гэта было сапраўднае Палессе. Там усё дыхала традыцыйнай культурай. А я вам скажу, што няма лепшай навукі за навуку народную, бо яна нясе толькі дабро. Гэта наша народная праўда. І людзі да яе цягнуліся. Старшыні калгасаў самі запрашалі зрабіць творчы калектыў, і машыну давалі, і на касцюмы з інструментамі грошы знаходзілі – абы ездзілі, абы працавалі.

**– А зараз у вашым народным тэатры "Матуліна хата" ўсё, як я разумею, трымаецца на чыстым энтузіязме. Замацаваны вы за сацыяльным цэнтрам Маскоўскага раёна, але зразумела, што ўсё адбываецца на дабрачынных пачатках.**

– Бывае, што і самі плацім за праезд, калі які канцэрт. Але свет не без добрых людзей. Вось, напрыклад, на Тураўшчыне жыве фермер Міхаіл Рыгоравіч Шуба. Дбайны чалавек, уважлівы. Нізкі яму паклон за ўвагу. Валерый Іларыёнавіч Сарока таксама не раз падтрымліваў. Цяперака вось лёс звёў з Францішкам Баляслававічам Жылкам. У Жодзішках у яго ці не адзіны ў Беларусі вадзяны млын, які працуе да нашага часу. Туды мы і перавезлі нашу "Матуліну хату". Раней музейчык месціўся тут, у Мінску, але той пакойчык у сацыяльным цэнтры ў нас забралі.

**– Мікалай Конанавіч, гэта праўда, што выступленняў у вашага калектыву – як у філармачічных артыстаў?**

– Іграем пастаянна. Хочацца, каб людзям стала трошкі лягчэй, таму робім гэта ад душы і дабрачынна. Памятаю, як аднойчы выступалі ў закрытай турме ў Гомелі. І вось мінуў нейкі час, і раптам да мяне на праспекце ў Мінску звяртаецца жанчына: "Я вас ведаю, вы ў калоніі нам ігралі". А ў самой слёзы на вачах. І падзякі лепшай за гэтыя слёзы мне не трэба. Шмат канцэртаў па вёсках стараемся даваць.

**– А як вытрымліваюць такі графік вашы артысты? Усе ж пенсіённага ўжо ўзросту.**

– І ўсе танцуюць! Самай старэйшай, Таццяне, 82 гады. Нагрузка немалая, па дзве рэпетыцыі на тыдзень, але ніхто нікога не прымушае. Некаторыя за 75 кіламетраў прыязджаюць, бо песня ім дае адчуванне жыцця, вяртае маладосць. Я так кажу: гэта наш залаты ўзрост, але трэба дажыць да ста гадоў. Ды так, каб і ў сто – і спяваць, і танцаваць!

## «Бацьку свайго я ніколі не бачыў»

**– Але як удаецца заставацца такім жыццялюбам, Мікалай Конанавіч? Лёс вас не песціў ад нараджэння ў 1941 годзе...**

– Пра тыя гады ведаю з маміных успамінаў. Я – зусім маленькі, брат трошкі старэйшы за мяне. Калі пачалася вайна, падаліся з Рэчыцы на вёску, у Гарываду. Маці выкапала ямачку за бабінай хатай, і там мы хаваліся, калі ішоў фронт. Падчас чарговай бамбёжкі ў наш акопчык скочыў немец. Мама падумала: усё, застрэліць... А ён – не, пачаў паказваць фотаздымак са сваімі дзеткамі, пачаставаў чымсьці нават ды пабег. А праз 200 метраў яго забіла...

**– Напэўна, несалодкімі былі і пасляваенныя гады?**

– Памятаю, як недзе на полі здох конік, дык усе беглі туды – адрэзаць які кавалачак мяса, каб што-небудзь з'есці. А бацьку свайго я так ніколі і не бачыў. Мама атрымала паперу, што ён знік без вестак. І толькі праз 68 гадоў, дзякуючы гомельскім спецыялістам, я знайшоў яго магілку. Ну як магілка – у Баранавічах стаіць шпіль, імёнаў на ім няма. Памятаю, прыехаў, сеў каля гэтага шпіля, а да мяне падыходзіць пажылы чалавек, пытаецца: што да як, чаму тамака сяджу. Ад яго і дазнаўся: калі пайшоў тыф, дык людзей у тую яму бульдозерам зграбалі. Жывыя яшчэ стагналі пад зямлёй...

**– Тады і з'явілася ваша песня "Я не бачыў цябе"?**

– "Ах, вайна ты, вайна, ліхалецце людское, я з табой, тата мой, не сустрэнусь ніколі..." І пра маму ў мяне ёсць песня – "Матуліна хата". Яе на Радаўніцу напісаў. Днём быў у мамы на магілцы, а ў тры ночы падхапіўся, і быццам нехта зверху мне гэтыя радкі нашаптаў.

**– А што сталася з вашай бацькоўскай хатай?**

– Сваёй хаты ў нас не было. Спачатку была кватэра ў бараку ў Рэчыцы, а потым маме далі аднапакаёўку – такую, як у мяне. Там яна на 74-м годзе і памерла. Адна жыла. Я вось таксама жыву адзін.

**– Не шкадуеце, што не заладзілася са сваёй сям'ёй?**

– У дзень свайго вяселля ў Тураве я пайшоў паглядзець, як *яна* апранаецца. За 200 метраў да хаты падаю на зямлю: прабадная язва. Ажанілі завочна, хаця дактары папярэджвалі... Вось і пажылі мы месяцаў пяцьшэсць. І ведаеце – добра, што разышліся. Не хачу, каб нехта бачыў мае слёзы. У мяне ж зараз другая група інваліднасці: у 2007 годзе ў нашу машыну ўляцеў п'яны кіроўца, дзесяць дзён я непрытомны праляжаў у асіповіцкай бальніцы, потым – Інстытут артапедыі ў Мінску. Дактары тады казалі, што я сваім аптымізмам за месяц вылечыў больш людзей, чым яны за год. Слёзы каціліся, а ўсё роўна рабіў практыкаванні. Вырашыў, што яшчэ абавязкова сяду на шпагат. Так яно і атрымалася. І танцую, і шпагат паказваю нават са спіцай у назе.

## «Не патрэбна ў народзе акадэмічная адукацыя»

**– Мікалай Конанавіч, дзе шукаць карані вашага захаплення народнай творчасцю? Насуперак ці дзякуючы чаму з'явілася гэта прага прыгожага?**

– Пасля вайны жылі вельмі бедна, але весела. Вы ж, напэўна, ведаеце, што такое вячоркі? А вось у Рэчыцы была складчына. Збіраліся ўдовы, нешта панапрыносяць, пазавуць музыканта – і спяваюць. Напэўна, тады ўва мне нешта і зварухнулася, кранула дзіцячую душу.

**– А вось вы кажаце: народная праўда, народная навука. А ці трэба яе падмацоўваць універсітэцкімі ведамі?**

– Не патрэбна ў народзе акадэмічная адукацыя. Тым жа падгалосачным спевам не навучыць ні адзін прафесар. Хочаш па-сапраўднаму? Едзь на вёску, да бабулек. Слухай, як яны спяваюць. А акадэмічны налёт адразу відаць. Бывае, быццам бы і народныя песні, а нейкі лубок атрымліваецца. З танцам тое самае. Дзе вы бачылі, каб у народзе хто цягнуў насок? Або наша "Лявоніха" – яна была зусім не такая, як яе танцуе Дзяржаўны ансамбль.

## «Мая галоўная палітыка – даў Бог танцаваць»

**– Захапленне народнымі традыцыямі неяк уплывае на ваша паўсядзённае жыццё?**

– Я ніколі не працую ў нядзелю, гэта яшчэ ад маці пайшло. За тымі часамі, мне падаецца, людзі ўвогуле былі больш сумленныя, правільныя... Зараз сустракаеш шчырага чалавека – і здзіўляешся, што такія яшчэ засталіся. Падобна, што я адстаў ад жыцця і, як усе старыя, пачынаю скардзіцца? Не, не адстаў. Проста хачу, каб мы самі не прабеглі міма гэтага жыцця. Каб ведалі сваё. Паглядзіце, колькі зараз разводаў. А ўсё таму, што вяселле стала фармальнасцю, згубілася сакральнасць гэтага рытуалу.

**– Мікалай Конанавіч, цяпер ужо даказана навукай: памяць продкаў – не проста прыгожае словазлучэнне. Але ці варта, калі мы кажам пра захаванне культурных традыцый, спадзявацца толькі на яе?**

– Трэба свядома берагчы сваю мову, свае традыцыі. А гэта цяжка. Ёсць навукоўцы – сядзяць, як мышы ў капне, баяцца слова сказаць. Памятаю, як па вяртанні з фестывалю "Беларусы Амерыкі" я напісаў артыкул у "Народную Волю". Як жа на мяне тады накінуліся! А што я дрэннага напісаў?! Што я люблю Беларусь? Люблю проста і звычайна, хоць і не крычу пра гэта на плошчах.

**– Па-вашаму, сапраўднае мастацтва – па-за палітыкай?**

– Я са многімі нашымі дзеячамі быў знаёмы, Пазьняку нават вяселле рабіў. Але мая галоўная палітыка – даў Бог танцаваць. І з мяне гэтага не вырвеш.

## Напачатку быў рытм

**– Мікалай Конанавіч, і ўсё ж такі: напачатку было слова?**

– Напачатку быў рытм! Дзіця яшчэ толькі ў чэраве маці – а яна яго ўжо адчувае. Жыццё наша пачынаецца з руxаў, хаця царква вучыць, што першасна слова.

**– І як тут знайсці залатую сярэдзіну?**

– А навошта яе шукаць? Як бы там ні было, усім кіруе Усявышні. Што чалавек без веры? Кожны ранак я дзякую Богу, што прачнуўся, што магу зноўку дзяліцца тым, што ведаю і ўмею. Трэба спяшацца гэта рабіць, бо ўсе мы пойдзем на той свет.

**– Але, магчыма, нас чакае працяг?**

– Шчыра? Мне здаецца, што "там" якраз нічога і няма. Ніхто яшчэ не вярнуўся адтуль. Але паміраць не страшна, калі ведаеш, што ўсё сваё жыццё хацеў на гэтай зямлі пакінуць лепшае.

**Аліна СТРАШКЕВІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Не толькі «жэстачайшы спрос» наканаваў усё-ткі лёс

Міністр унутраных спраў, прэзентуючы ў парламенце змены ў законе аб масавых мерапрыемствах, дазволіў сабе жартам сказаць: "Надыходзіць жэстачайшая лібералізацыя".

Дасюль усіх ганяў АМАП,
Як тых катоў, на Бангалоры.
Цяпер імпэт крыху аслаб,
І сам міністр ужо ў гуморы.
Такога не было здавён,
Штось адбылося з генералам,
Бо заявіў: гатовы ён
Стаць "жэстачайшым лібералам".
Прапанаваў закон такі:
Як будзеце гарлаць у парку,
Ніхто не ўздзене кайданкі,
Не натаўчэ ніхто па карку.

* * *

Наканаваны гэткі лёс,
Усё, як кажуць, поўнай чашай:
Спазналі "жэстачайшы спрос",
І воля будзе "жэстачайшай"...

## Каб выйграць штосьці, трэба купіць буханку хлеба

Сяргей Шабан з Жодзіна пайшоў у краму па хлеб і ў гульні "Удача ў прыдачу", якую праводзіць "Еўраопт", выйграў аднапакаёвую кватэру ў Мінску.

Мікола разгарнуў газету,
І пот аж выступіў на лбе.
– Ці чула ты навіну гэту? –
Пазваў ён жонку да сябе. –
Ды я вачам сваім не веру!
Тут пішуць: з Жодзіна мужык
Нашармака займеў кватэру,
І ўсё, як кажуць, бляск і шык.
Па хлеб паслала жонка ў краму
(Сама, вядома, не пячэ).
Ён перавыканаў праграму –
Купіў у краме штось яшчэ.
А потым – бац! – па латарэі
Яму далі галоўны прыз.
Ад радасці любы здурэе –
З-за п'янкі ён, бадай, азыз.
Шанцуе ўсё-ткі некаторым...
Удачу гэткую – ды мне б!
І жонка мовіла з дакорам:
– А ты хоць раз схадзіў па хлеб?..

## Існы міліцыянер не лютуе, быццам звер

У Полацку відэакамера зафіксавала, як супрацоўнік міліцыі мімаходзь піхнуў нагою кацяня. Пасля таго, як ролік быў змешчаны ў інтэрнэце, міліцыянера звольнілі.

Над душой віселі хмары
Ці з прычыны ўсё ж другой –
Чалавек на тратуары
Кацяня піхнуў нагой.
Ён не нейкі зэк адпеты,
Што лютуе, быццам звер.
Хуліган нахабны гэты –
Бравы міліцыянер.
А цяпер відэакамер
Тут і там – нібы гразі.
Ролік (быццам кінуў камень!)
Хтосьці ў Сетку загрузіў.
І ніхто б не ганіў "зверху"
Хулігана, не сакрэт,
Каб не ўзняўся раптам вэрхал –
Абурыўся інтэрнэт.
Бочкі каціць гэтак часта
На міліцыю цяпер,
Што заверыла начальства:
Гэты міліцыянер
У сваёй ранейшай ролі
Больш не выступіць ні дня,
Бо "сапраўдны мент" ніколі
Не пакрыўдзіць кацяня
І з яго не ўчыніць здзеку –
"Мент" на здзекі не мастак!

* * *

А па карку чалавеку
Можа трэснуць толькі так...

ВЕДАЙ НАШЫХ!

Зміцер ЯГОРАЎ:

## «Людзі падалі, губляючы прытомнасць...»

*Беларускі журналіст Зміцер Ягораў узяў удзел у класічным марафоне, які прайшоў у Афінах, і фінішаваў з бел-чырвона-белым сцягам. Пасля фінішу Зміцер адказаў на некалькі пытанняў "Народнай Волі".*



– Ніколі раней я не быў заўважаны ў любові хоць да якога-небудзь спорту, – *гаворыць Зміцер.* – Фізкультура ў школе мне, шчыра кажучы, не падабалася, я атрымліваў траякі за кросы, бездапаможна вісеў на перакладзіне, калі трэба было здаваць падцягванні, і смешна боўтаўся, учапіўшыся за канат, на вышыні паўтара метра, калі трэба было залезці па ім пад самую столь.

Пасля трыццаці я пабачыў у люстэрку хударлявага бледнаватага чалавека з неразвітай мускулатурай, у якога праз злоўжыванне півам і кілбаскамі пачаў расці жывот. Відовішча было так сабе. І было зразумела, што, калі я і далей буду змяняцца такімі тэмпамі, будзе яшчэ горш.

Спрабаваў займацца боксам, але потым абраў бег. Актыўна займаюся гэтым відам спорту ўсяго год. Памятаю, як на самым пачатку марыў без спыненняў прабегчы 10 кіламетраў і не памерці. Тады пераадоленне гэтай дыстанцыі здавалася мне нерэальнай марай... Але нічога, уцягнуўся...

**– Перад паездкай у Грэцыю не баяўся, што не ўдасца пераадолець дыстанцыю класічнага марафону? Гэта ні многа ні мала 42 кіламетры...**

– Страху не было, было хваляванне. Афінскі класічны марафон – сусветна вядомая падзея, пераадолець такую дыстанцыю пад сілу не кожнаму чалавеку. Я на свае вочы бачыў, як людзі на дыстанцыі гублялі прытомнасць, кагосьці ванітавала, хтосьці, не разлічыўшы сілы, проста падаў... Працы для медыкаў і валанцёраў хапала. Людзей прама з дыстанцыі забіралі ў машыны "хуткай". Я, дзякуй Богу, да ўрачоў не звяртаўся – вытрымаў. Самымі цяжкімі былі два адрэзкі марафону: дыстанцыя з 19-га па 31-ы кіламетр, калі трэба бегчы ўгару, і тры фінішныя кіламетры. Прызнаюся шчыра: дзе-нідзе з бегу пераходзіў на хуткую хаду, адсочваў свой пульс. Калі адчуваў, што арганізм працуе на мяжы магчымага, сцішваў тэмп... Фінішаваў я недзе ў сярэдзіне шостай тысячы з 18 тысяч удзельнікаў

**– І фінішаваў з бел-чырвона-белым сцягам...**

– Так, гэта для мяне было прынцыпова, важна. Я лічу сябе патрыётам Беларусі, таму нацыянальны сцяг быў прымацаваны да маёй рукі. Гэта дадавала мне сіл. Я разгарнуў яго метраў за 300 да фінішу, з нацыянальным сцягам і перасек фінішную рысу...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



ВІНШУЕМ!

Конрад ПАЎЛІК,
Надзвычайны і Паўнамочны Пасол Польшчы ў Беларусі:

# «Мы выдатна ведаем цану НЕЗАЛЕЖНАСЦІ і тое, колькі неабходна часам ахвяраваць дзеля яе»

*11 лістапада Польшча адзначыла галоўнае Нацыянальнае свята.*

Традыцыйна з гэтай нагоды ў розных гарадах краіны адбыліся святочныя мерапрыемствы, канцэрты, шэсці і набажэнствы. Асноўныя афіцыйныя ўрачыстасці з удзелам прэзідэнта краіны **Анджэя Дуды** прайшлі ў цэнтры Варшавы і пачаліся з набажэнства за Айчыну і ўскладання вянкоў да Магілы Невядомага Салдата.

11 лістапада стала Нацыянальным святам Незалежнасці, ці Днём незалежнасці, Польшчы ў 1918 годзе, калі скончылася Першая сусветная вайна і тэрыторыі, якія больш за 120 гадоў былі падзелены паміж Расійскай імперыяй, Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй, аб'ядналіся ў Другую Польскую рэспубліку. У верасні 1939 года, на пачатку Другой сусветнай вайны, Польшчу падзялілі паміж сабой нацысцкая Германія і Савецкі Саюз. Пасля заканчэння вайны Дзень незалежнасці афіцыйна не адзначаўся да 1989 года, і толькі пасля таго, як у Польшчы прайшлі першыя дэмакратычныя выбары, 11 лістапада зноў стала дзяржаўным святам.

Дзень незалежнасці – вельмі важнае свята для палякаў.

– *Перш за ўсё мы стараемся зразумець, што азначае незалежнасць для нас, палякаў,* – адзначыў у інтэрв'ю Радыё Свабода Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі **Конрад ПАЎЛІК.** – *Гэта асаблівая дата, бо Польшча была да 1918 года падзелена, 123 гады яна не існавала як суверэнная дзяржава. Толькі завяршэнне Першай сусветнай вайны стала момантам адраджэння.*

*Незалежнасць дазваляе кожнаму народу ва ўласнай краіне адчуваць у сябе дома, фарміраваць лад жыцця адпаведна ўласным уяўленням, традыцыям, культуры. Для палякаў гэта асабліва важна, бо ў гісторыі былі розныя перыяды, у тым ліку і цяжкія, калі мы не мелі магчымасці самастойна прымаць рашэнні. Таму Дзень незалежнасці 11 лістапада такі важны для нас. Налета, гэта я хачу падкрэсліць, мы будзем святкаваць 100-годдзе адраджэння Польскай дзяржавы пасля Першай сусветнай вайны, што мае для нас сімвалічнае значэнне. Мы выдатна ведаем цану незалежнасці і тое, колькі неабходна часам ахвяраваць дзеля яе. Таму гэтае свята вельмі важнае для нашай нацыянальнай ідэнтычнасці, і мы рады, што Польшча сёння – цалкам вольная і незалежная краіна. Для многіх пакаленняў палякаў гэта была недасяжная мара. 11 лістапада мы радуемся, што яна спраўдзілася".*

Сёння Польшча яшчэ і адна з самых паспяховых краін Еўропы, эканоміка якой дынамічна развіваецца. У 2004 годзе Польшча інтэгравалася ў Еўрапейскі Саюз, і, на думку многіх экспертаў, гэта стала адной з ключавых прычын яе поспеху: уступленню ў Еўрасаюз папярэднічала глыбіннае рэфармаванне літаральна ўсіх сфер краіны.

## У іх сярэдні заробак перавышае 1000 еўра, а ў нас – амаль у тры разы меншы

Мы часта параўноўваем Беларусь з Польшчай, таму што мяжуем і таму што эканомікі нашых краін былі вельмі падобныя на пачатку 1990-х. Але сёння палякі пераўзыходзяць нас літаральна па ўсіх паказчыках.

Сярэдні заробак у Польшчы перавышае 1000 еўра, а ў Беларусі амаль у 3 разы меншы – 361 еўра. Сярэдняя пенсія дазваляе паляку пражыць нябедную старасць, паводле апошніх дадзеных памер сярэдняй пенсіі па ўзросце ў Польшчы – 492 еўра, а ў Беларусі – усяго толькі 134 еўра. І пры гэтым цэны, можна сказаць, літаральна на ўсё, акрамя паліва, цыгарэт і гарэлкі, у Польшчы меншыя, чым у Беларусі. У мінулым годзе, паводле дадзеных Міжнароднага валютнага фонду, ВУП на душу насельніцтва ў Польшчы складаў – 12.316 долара, у Беларусі – 5143 долара.

## 9,2 мільярда крэдытных долараў ім ужо не патрэбны

Польшча сёння знаходзіцца ў ліку дваццаці найбуйнейшых атрымальнікаў прамых замежных інвестыцый у свеце, У рэйтынгу Сусветнага банка Doing Business 2017 Польшча заняла 24-е месца сярод 190 краін, а ў дакладзе FDI Intelligence (падраздзялення Financial Times Ltd.) – першае месца ў Еўропе і трэцяе ў свеце (пасля Кітая і ЗША) па прывабнасці укладанняў у вытворчасць. Таксама высокае месца трымае Польшча і ў рэйтынгу краін свету па ўзроўні жыцця, які ўлічвае эканамічныя паказчыкі, інвестыцыйны клімат у краіне, умовы для вядзення прадпрымальніцкай дзейнасці, узровень адукацыі і свабод. У гэтым рэйтынгу ў Польшчы 34-е месца сярод амаль 150 краін свету.

Яшчэ адзін факт, які характарызуе сённяшняе становішча Польшчы: у кастрычніку гэтага года Польшча адмовілася ад крэдытнай лініі МВФ на суму 9,2 млрд долараў! «*Эканоміка Польшчы знаходзіцца ў такой добрай сітуацыі, што мы можам гэта зрабіць*», – патлумачыў такі крок кіраўнік Мінфіна Польшчы **Матэвуш Маравецкі**.

***

Адным словам, становучай нагоды для святочнага настрою ў Дзень незалежнасці ў палякаў больш чым дастаткова!

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**



ТАМ, В УКРАИНЕ

# СЛАВЯНСКАЯ ТРАГЕДИЯ

(Продолжение. Начало в №№ 85,87,89.)

## За что убили христиан?

Сегодня на стене районного отдела СБУ Славянска установлена мемориальная доска в память о депутате горсовета **Владимире Рыбаке**. Он был похищен 17 апреля, в Чистый четверг. В тот день у Владимира произошел инцидент с пророссийскими активистами. Когда мужчина попытался снять с захваченного сепаратистами здания флаг самопровозглашенной «Донецкой народной республики», его грубо оттолкнули. А чуть позже Рыбака арестовали, затолкнули в подъехавшую машину и увезли в неизвестном направлении. 21 апреля в притоке Северского Донца, неподалеку от Славянска, были обнаружены тела двух мужчин. В одном из них жена Владимира Рыбака опознала супруга... Ему вспороли ножом живот.

«*Самое ужасное, что человек (если его можно назвать человеком), ответственный за это и многие другие убийства, сегодня живет в Москве и никто не пытается его судить за совершенные военные преступления*, – говорит Марик, мой друг детства. – *А ведь на его совести не только убийство депутата горсовета и многих других людей. Его люди убили сыновей пастора Славянского отделения Церкви Преображения Господня Александра Павенко.*

*Кто-то сообщил террористам, что служители Церкви Преображения Господня помогают: возят еду и воду солдатам украинской армии, стоящим на блокпостах вокруг Славянска и, возможно, сообщают им информацию о действиях террористов в городе. Ходили слухи, что «наводку» на служителей протестантской церкви дали попы из РПЦ, которые, кстати, после возвращения в город украинской власти убежали из города.*

*Пастор вместе с сыновьями Альбертом, 1990 года рождения, Рувимом, 1984 года рождения, и еще два служителя церкви были похищены ополченцами 8 июня во время праздничного богослужения ко Дню Святой Троицы. Похитители забрали с собой четыре автомобиля, принадлежащих жертвам: Cevrolet Evanda, Ford Transit, LandRover Discovery, Toyota Avensis.*

*Похищенных пытали, затем расстреляли. А чтобы скрыть следы преступления, убийцы попытались изобразить, будто пять протестантов погибли от минометного огня с украинской стороны. Они положили тела жертв в самый дешевый из четырех похищенных автомобилей (Cevrolet Evanda) и сожгли его. Тела погибших были захоронены террористами в братской могиле на территории детской больницы Славянска вместе с двумя десятками трупов ополченцев. Руководителем похоронной зондеркоманды был российский наемник по кличке «Дровосек».*

*Три месяца спустя, 5 июля 2014 года, «труппа Стрелкова», собрав «реквизит», ранним утром покинула Славянск. Мавр сделал свое дело – сыграл свою роль в спектакле под условным названием «Инцидент в Гляйвице» и уехал на Валаам – причащаться, исповедоваться и писать мемуары».*

## Война ушла из Славянска

ЗОСЯ, учитель математики:

*«Знаешь, когда мы поняли, что наступил мир? Когда на дорогах появились гаишники! Не те гопники-ополченцы с блокпостов, а наши, родные, пусть иногда не очень любимые, а нередко слишком дорогие... Но в июле 2014 года инспектор ГАИ был как голубь мира – олицетворением возврата к нормальной, спокойной, мирной жизни! Увидев гаишников на дороге, мы плакали, кричали, махали руками. А они стояли на обочине обалдевшие от нашего нежного к ним отношения и никого не штрафовали...»*

Однако война не ушла. Война лишь отступила в окрестности Донецка. И все последние три года Славянск живет в страхе: а вдруг она вернется? Ведь от города до развалин донецкого аэропорта всего лишь 100 километров! А в «лизинге» у террористов ДНР – реактивные системы залпового огня, способные поражать цели на расстоянии 70–120–200 километров! Более того, ракеты модифицированной системы «Смерч» при необходимости способны нести даже ядерный заряд.

Конечно, я не верю, что кто-то в Кремле даст «обезьяне» в руки ядерную погремушку, но, послушав «соловьиные трели» на НТВ, невольно думаешь: «А чем черт не шутит, когда Бог спит? Может, какой нибудь «сын юриста», оказавшись на командном пункте реактивной бригады, так захочет выслужиться перед руководством, что нажмет на «красную кнопку» и... прощай, Славянск, Изюм, Чугуев, Харьков! Это не говоря о танковой армии, которая вот уже три года стоит на границе Белгородской и Харьковской областей в ожидании команды «фас».

Скажем честно, хоть мы и живем в XXI веке, но большинство людей, включая тех, кто у власти, ментально все еще находятся в каменном веке. Их мозга не коснулись эволюционные процессы. Они считают, что куда проще устроить небольшую победоносную войну, чем вести утомительные дипломатические переговоры. Тем более когда речь идет о единоборстве безумного Голиафа с ядерной бомбой в кармане, с босоногим Давидом в трусах и майке по колено...

МАРИК, друг детства:

*«Ты прав, три года мы прожили в страхе, что вот сейчас – завтра, послезавтра – снова начнется война. Но куда страшнее было осознать, что 40 процентов жителей города (а может, даже 60!) – латентные сепаратисты. Да, они не ушли из города с группой Стрелкова, потому что не хотят воевать, а главное – боятся погибнуть. Да, симпатизируя ДНР, они тем не менее не хотят переезжать в Донецк, потому что в Славянске комфортная мирная жизнь и пенсии-зарплаты вовремя. Но, оставаясь на украинской стороне, в Славянске, они ненавидят Украину и ждут второго прихода «русской весны». И они поддержат пришествие нового Стрелкова под желтым знаменем с ликом Христа, красным флагом КПСС и российским триколором, привязанными к дулу танка. Сегодня линия фронта проходит не в районе Авдеевской промзоны, а в наших мозгах. Родившись в Украине, будучи ее гражданами, мы вдруг оказались по разные стороны баррикад с разным восприятием Украины как Родины. И среди наших общих друзей оказалось немало поклонников «русского мира». Я им говорю: не нравится в Украине – переезжайте в Россию. Кто мешает? Ради чего убивать друг друга? Ведь есть программа возвращения россиян на историческую родину! Но нет, не хотят переезжать. Им лучше кровопролитие.*

*А недавно во время сессии горсовета, когда предложили почтить минутой молчания память украинских бойцов, погибших под Волновахой, одна чиновница демонстративно вышла из зала. И ее не линчевали! Она по-прежнему спокойно сидит в своем кресле.*

*А человека, который участвовал в организации референдума по созданию ДНР, вдруг назначают директором школы. Это что такое? Его надо в тюрьму – за госизмену, а не школьников воспитывать! Но власти терпят и молчат».*

Утром мне позвонил приятель – офицер полиции. Говорит: «*Арестовали боевиков из «народной армии Донбасса». Оба клянутся, что в боях не участвовали, бес попутал. Выясняем, что за бес. Будем изгонять...*»

Иду в городской отдел полиции поприсутствовать при допросе. Как я и предполагал, никакой террористической экзотики. Один мужичок маргинального типа клянется, что просто рыл окопы для ополченцев Стрелкова, получая за это еду и выпивку. Второй, житель пригородного села Былбасовка, признается, что добровольно записался в «славянское ополчение», потому что боялся карателей из «Правого сектора».

– Я был уверен, что если «Правый сектор» придет в Славянск, то вырежет все русскоязычное население.

– Кто вам это сказал? – спрашивает следователь.

– Ну как же, российское телевидение говорило, и потом, я ведь помню, как еще в советское время нам рассказывали, что «бандеровцы» людей в Западной Украине убивали, села жгли.

– А я вот «бандеровец» по вашим меркам, – говорит следователь. – Родился во Львовской области, но говорю с вами по-русски, и у вас еще все зубы целы, чего не было бы, окажись вы в подвале «полковника Стрелкова».

Сепаратист молчит, опустив голову.

В этот же день суд города Краматорска начал процесс по делу жителя Славянска, который три года воевал против украинской армии в составе незаконных вооруженных формирований так называемой ДНР. В ходе предварительного расследования было установлено, что в апреле 2014 года, когда город Славянск был оккупирован террористами ДНР, 33-летний ранее судимый местный житель добровольно вступил в ряды боевиков. Войдя в состав так называемого «народного ополчения Донбасса», он дежурил у захваченного здания исполнительного комитета Славянского городского Совета и оказывал силовую поддержку организаторам незаконного референдума о признании суверенитета ДНР.

В июле 2014 года, отступив вместе с боевиками в город Горловка, этот тип продолжил воевать против Украины в составе батальона «Ольхон». Участвовал в боевых действиях против подразделений Вооруженных сил Украины вблизи городов Горловка и Дебальцево и на Светлодарской дуге.

Расследование завершено. Боевика ждет приговор – 15 лет строгого режима.

*(Продолжение следует.)*

**Евгений СУЛЫГА.**

*Минск–Киев–Славянск–Донецк–Минск.*

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## На саміце «Усходняга партнёрства» ў Брусэлі плануецца прыняць праграму супрацоўніцтва паміж ЕС і Беларуссю

Пра гэта ў інтэрв'ю праграме «Галоўны эфір» тэлеканала «Беларусь 1», паказаным увечары 12 лістапада, паведаміў пасол Францыі ў Мінску Дзідзье Канес. «*Чакаецца, што будзе прынята праграма супрацоўніцтва паміж Еўрасаюзам і Беларуссю. Я, вядома, не магу пакуль раскрываць дэталі, але магу запэўніць, што там будуць новыя элементы*», – сказаў дыпламат.

Паводле яго слоў, Францыя падтрымлівае паглыбленне адносін паміж Беларуссю і Еўрасаюзам.

Канес нагадаў, што ініцыятыва «Усходняе партнёрства» пабудавана на прынцыпе дыферэнцыяцыі. «*Гэта значыць, што кожны партнёр вызначае ўзровень супрацоўніцтва з Еўрасаюзам і як ён напоўнены*», – сказаў пасол.

Саміт УП у Брусэлі можа стаць першым, у якім возьме ўдзел Аляксандр Лукашэнка. У пяці папярэдніх самітах ад Беларусі ўдзельнічалі чыноўнікі рознага ўзроўню. Так, на апошняй сустрэчы ў Рызе ў 2015 годзе беларускую дэлегацыю ўзначальваў міністр замежных спраў Уладзімір Макей.

27 кастрычніка прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў сустрэўся з камісарам па еўрапейскай палітыцы суседства і перамовам аб пашырэнні ЕС Ёханесам Ханам. Сустрэча адбылася ў Люксембургу, дзе праходзіць Беларуска-еўрапейскі інвестыцыйны форум.

Паводле звестак прэс-службы ўрада, бакі абмеркавалі актуальныя пытанні ўзаемадзеяння Беларусі і ЕС. Хан заявіў пра гатоўнасць пачаць экспертную працу па фарміраванні асноўных элементаў усёабдымнага пагаднення аб узаемадзеянні Беларусі і Еўрасаюза.

Чакаецца, што найбліжэйшым часам Хан наведае Беларусь. «*Спадзяюся, што ў наступныя некалькі тыдняў я прыеду ў Мінск для працягу абмеркаванняў, якія мы пачалі раней, а таксама для абмену думкамі на экспертным узроўні*», – паведаміў еўракамісар журналістам 26 кастрычніка ў Таліне.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ,**
БелаПАН.

НЕСТАНДАРТ

# МАРАФОНЕЦ

*Сцяпану Шалаеву з Наваполацка 76 гадоў.*
*Нягледзячы на ўзрост, мужчына ўдзельнічае ў рэспубліканскіх і замежных марафонах.*
*За плячыма ў спартсмена тысячы кіламетраў і дзясяткі розных гарадоў.*
*На нашу сустрэчу Сцяпан Сцяпанавіч прыйшоў пешшу – з аднаго канца горада ў другі.*
*Прызнаецца, што грамадскім транспартам не карыстаецца.*
*Пра першыя старты, пра тое, што думае падчас бегу і як аднаўляецца пасля фінішу, Сцяпан Шалаеў распавёў «Народнай Волі».*



### У спорце з дзяцінства

– Летам былі марафоны ў Мінску, Кіеве, Валгаградзе, – *кажа Сцяпан Сцяпанавіч.* – Але гады сваё бяруць: чым больш узрост, тым больш часу на аднаўленне сыходзіць.

**– Калі не падманваюць падлікі, дык на вашым рахунку 33 тысячы кіламетраў…**

– На сённяшні дзень ужо 34 тысячы. За спінай 178 марафонаў (з іх 79 сутачных). Афіцыйны спартыўны стаж – 60 гадоў.

На раённых спаборніцтвах выступаў з 8-га класа: займаўся ваенным біятлонам, спартыўным арыентаваннем. Праўда, арыентаваннем займаўся, пакуль не сталі «крыўдзіць»: чым чалавек старэй, тым меншая дыстанцыя прадугледжваецца. А я заўсёды імкнуўся прабіцца ў эліту, дзе самыя доўгія маршруты.

**– Зараз у вас вялікі досвед у марафонах, а як усё пачыналася?**

– Пачаў я займацца бегам у Маскве, калі рыхтаваўся паступаць у аспірантуру. Трэба было здаваць экзамен па замежнай мове. Але калі некалькі гадзін сядзіш за падручнікамі, то мозг ужо перастае нармальна засвойваць інфармацыю, таму, каб крыху адпачыць, ішоў на стадыён. Словы, якія трэба было вывучыць, запісваў на кардонку – і наперад: дзве гадзіны пабегаў – 30 слоў ніколі не забудзеш. Многія спартсмены ў мой час так рыхтаваліся да экзаменаў.

Пяць кіламетраў прабег, сеў за кнігі, потым яшчэ пяцёрачку – і так у дзень некалькі разоў. У рэшце рэшт давёў адлегласць да 30 кіламетраў, якія прабягаў за адзін раз. Па часе атрымлівалася 1 гадзіна 40–50 секунд. Вядома, цяпер, у 76 гадоў, такія вынікі не пакажу.

**– А хто вы па прафесіі?**

– Скончыў танкатэхнічнае ваеннае вучылішча ў Кіеве. Потым быў Маскоўскі авіяцыйны інстытут, дзе абараніў дысертацыю. Служыў у Прыбалтыцы, але той клімат паўплываў на здароўе, таму з Узброеных сіл прыйшлося звольніцца ў 1964 годзе. Пасля гэтага ўжо ў Куйбышаве працягнуў адукацыю: паступіў на факультэт канструявання лятальных (касмічных) апаратаў.

Працаваў канструктарам, выкладчыкам у Наваполацку.

**– Ведаю, што ваш бацька трапіў пад рэпрэсіі...**

– Ён атрымаў пяць гадоў высылкі ў Сібір. Некалькі гадоў разам з маці там пражыў і я. Можна сказаць, што тады і пачаў бегаць: бацькі былі на рабоце, а дома – малодшая сястра, якую я няньчыў. Настаўніца адпускала мяне за 5 хвілін да заканчэння ўрока, каб хуценька збегаў дадому: прыбег, перапавіў і назад. Жанчынам у той час толькі 56 дзён пасля родаў адводзілася.

### На спаборніцтвы з шакаладам

**– Якая самая доўгая дыстанцыя з вашым удзелам?**

– У Кішынёве 2004 кіламетры. Прабег іх за 27 дзён (бегаў кругамі): з 19 красавіка па 16 мая 2004 года. Гэта быў першы ў свеце прабег на Вялікдзень. Усе дакументальныя пацвярджэнні ўдзелу ў розных стартах у мяне на руках.

Дарэчы, нядаўна я зрабіў запыт, каб даведацца пра сваё становішча ў сусветным рэйтынгу. У групе ад 75 да 79 гадоў займаю 13-е месца.

**– Чуў, што спартсмены перад стартамі змазваюць ногі адмысловай маззю...**

– Некаторыя паміж пальцаў змазваюць вазелінам. Але я не прыхільнік такога метаду, бо вазелін сушыць, таму я ім не карыстаюся.

**– Як вы рыхтуецеся перад стартам?**

– Калі, напрыклад, сёння даведаўся, што спаборніцтвы праз 10 дзён, то адразу ж складаю графік харчавання і трэніровак. Шмат ем курагі, разынак, якія ўмацоўваюць сардэчную цягліцу. У паўсядзённым жыцці я адмовіўся ад мяса. Ужываю розныя кашы – каля 1,5 тысячы кілакалорый у суткі.

Падчас сутачнага марафону на сталах абавязкова павінен прысутнічаць шакалад. Асабіста я на спаборніцтвы на ўсялякі выпадак две-тры шакаладкі з сабой бяру заўсёды.

**– Наколькі важная экіпіроўка?**

– Самае галоўнае – гэта абутак. Нядаўна купіў красоўкі ў Санкт-Пецярбургу, але, калі шчыра, мне падабаецца бегаць у кедах, якія ўжо страцілі амартызацыю *(смяецца).* За год налічваецца некалькі тысяч кіламетраў, таму не ўвесь абутак, вядома, вытрымлівае.

**– Як аднаўляецеся пасля спаборніцтваў?**

– Прабегчы маршрут – паўсправы, бяда пачынаецца пасля фінішу, калі ног проста не адчуваеш.

Пасля заканчэння дыстанцыі пажадана прыняць ванну ці схадзіць у саўну, каб патрымаць ногі ў цёплай вадзе. Але нельга ісці ў парную, бо на сэрца будзе вельмі вялікая нагрузка.

**– Пра што думаеце на доўгіх дыстанцыях?**

– Толькі не пра бег *(смяецца).* Складаю вершы, перамнажаю двухзначныя лічбы. Мозг практыкуецца падчас фізічных нагрузак.

**– Ведаю, што ваша жонка таксама ўдзельнічае ў стартах...**

– Апошнім часам не, але раней бегала. Калі я трэніраваўся ў зале, то ёй шмат часу даводзілася быць адной. Прапанаваў хадзіць са мной, каб не было сумна. Праз некаторы час жонка таксама пачала бегаць. Пазней прапанаваў паўдзельнічаць у марафоне на сто кіламетраў у Адэсе, а яна пагадзілася. За 16 гадзін жонка пераадолела дыстанцыю.

Займала прызавыя месцы, удзельнічала ў сутачных марафонах.

**– Якая геаграфія вашых стартаў?**

– Самая заходняя кропка – гэта Францыя: на чэмпіянаце Еўропы выступаў за зборную Беларусі ў 1996 годзе. Усходнім пунктам стаў пасёлак у Расіі ў 180 кіламетрах ад горада Брацка. Потым быў Архангельск (поўнач) і Адэса. Гарадоў, вядома, за ўсе гэтыя гады налічыцца шмат.

Ад некаторых стартаў зараз даводзіцца адмаўляцца па эканамічных прычынах. Квіткі, начлег, харчаванне, стартавыя ўзносы – гэта нятанна. Раней арганізатары марафонаў дасылалі запрашальныя. Зараз рабіць заяўку трэба самастойна праз інтэрнэт. Напрыклад, ва Украіне ў гэтым годзе мне пайшлі насустрач – зрабілі зніжку, а так усё за свой кошт.

Але, нягледзячы на гэта, рухацца трэба, таму буду бегаць.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
*Наваполацк.*

СПОРТ



# Беларускія паралімпійцы выступілі ў Італіі

*Чэмпіянат свету па фехтаванні на калясках прайшоў у Рыме.*

У зборную Беларусі ўвайшлі прадстаўнікі мінскай і полацкай спартыўных школ. У агульнакамандным заліку беларускія спартсмены занялі 6-е месца.

*– У асабістых выступленнях я быў 11-м,* – сказаў «Народнай Волі» фехтавальшчык **Андрэй Праневіч**. *– У цэлым каманда заняла шостае месца. Думаю, што гэта нядрэнны паказчык, улічваючы, што з-за траўм у нас першапачаткова склад быў слабейшы.*

*Сваім вынікам катэгарычна незадаволены, хоць быў добра падрыхтаваны. Прайграў псіхалагічна, перахваляваўся.*

У сезоне гэта былі апошнія спаборніцтвы для паралімпійцаў.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**






РАСТЕНИЯ ЛЕЧАТ

## Аптека на даче

***Впервые в этом году выращивала лекарственные растения на даче. Я их собрала, высушила, а вот где и как хранить – не знаю. Видимо, им нужны определенные условия. Пожалуйста, расскажите о них.***

**Ирина СТАНЧУК, г.Жлобин.**

Высушенное лекарственное сырье и приготовленные из него сборы следует хранить в сухом прохладном и обязательно защищенном от яркого света месте. Наиболее удобная для этих целей тара – двухлитровые банки из темного стекла с широким горлом и завинчивающимися пластмассовыми крышками.

Для надежной сохранности лекарственное сырье должно иметь влажность не более 17%, иначе оно может заплесневеть. Чтобы этого не случилось, под пластмассовую крышку нужно положить прокладку из чистого картона или нескольких слоев плотной бумаги.

Напомним: из свежих и высушенных растений в дачных условиях можно приготовить следующие лекарственные формы – порошки, настои, отвары, мази.

НАША ПЕРЕПИСКА

### У хорошего хозяина должен быть порядок

**В.СИМЧЕНКОВУ, г.Поставы.** Растительные остатки с признаками любых заболеваний нужно сжигать или глубоко закапывать в почву, а здоровые можно закладывать в компост.

**Р.ВАСИЛЬЧЕНКО, Гомель.** Лук-севок, посаженный до заморозков, нужно слегка присыпать торфом или землей, а при наступлении морозов дополнительно укрыть перегноем. Общий слой должен быть 6–8 сантиметров.

**С.БОРМОТОВУ, Лунинецкий район.** Хороший эффект в борьбе с проволочником дает глубокая осенняя перекопка почвы с выборкой личинок вредителя. Уничтожайте на участке пырей: на его корневищах бывает много проволочника.

**А.ПОЛЯКОВОЙ, г.Полоцк.** На зиму лимонник укройте еловым лапником, стеблями растений, утеплите корневую систему толстым слоем торфа или перегноем, соломой.

**И.БЕЛЬЧЕНКО, г.Кричев.** Хранить луковицы гладиолусов в пленочных или плотных бумажных пакетах нельзя: повышенная влажность в них может вызвать появление гнили и преждевременное прорастание.

**Н.ГЛАДЫШЕНКО, г.Кореличи.** Чтобы во время хранения соленых огурцов на поверхности рассола не появлялась плесень, необходимо насыпать немного сухого порошка горчицы. Она содержит антисептическое вещество – аллиловое масло.

**М.ЧЕРНЯК, Борисовский район.** Ваши плодовые деревья не будут болеть, если вы будете строго соблюдать все правила агротехники и наладите за ними должный уход. В хорошем саду не бывает больших бед.

ЕСТЬ УПРАВА НА ВРЕДИТЕЛЕЙ?

***

**Уничтожение мышей.** Берут мятный спирт или мятное масло с сильным запахом и смазывают им то место, где были найдены следы мышей. Мыши и крысы тут же переселятся с этого места и уже никакими силами их не вернуть назад – до такой степени им ненавистен запах мяты. Против мышей, крыс и т.п. рекомендуют также следующее совершенно безвредное для других средство. Новую пробку мелко нарезают и поджаривают в свином сале до тех пор, пока она не приобретет темно-коричневый цвет. Такие кусочки пробки бросают там, где водятся мыши, там же ставят воду. Наевшись пробки с соленым салом и напившись воды, мыши подыхают от разбухшей в их желудке пробки.

***

**Предохранение деревьев от зайцев.** 3 части по весу растопленного сала и 1 часть смолы растапливают на малом огне, и этой смесью, остуженной до температуры парного молока, смазывают с помощью щетки ствол дерева в нижней части, которая может быть подвергнута нападению зайцев. Замечено, что грызуны не трогают смазанную таким средством кору деревьев. Смесь держится прочно, и, если слой хорошо нанесен, повторять смазывание не приходится в течение всей зимы. Состав совершенно безвреден для самого дерева.

***

**Средство от крыс и мышей.** Негашеную известь растирают в ступке и просеивают через сито, затем примешивают столько же мелко истолченного сахара и готовую смесь помещают в местах, наиболее посещаемых крысами или мышами. Эти грызуны очень любят сахар и охотно едят смесь. Но, проникнув в желудок, негашеная известь под влиянием желудочного сока и воды немедленно оказывает свое разрушительное действие: известь нагревается (гасится), вспучивается и вызывает сильнейшее воспаление – животное погибает.

ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Болеют листья – урожай снижается

***В пленочной теплице у меня росли огурцы. Казалось бы, урожай должен быть хороший, но он получился не такой, на который я рассчитывала. Все дело в том, что листья огуречника покрывались какими-то бурыми пятнами, затем отмирали. Не можете ли объяснить, что это за болезнь?***

**Римма ХАРЬКОВА, Брест.**

Это бурая пятнистость. Она поражает только листья огурца. Вначале появляются мелкие светлые пятнышки, окруженные темной некротической тканью и хлоротическим ореолом. Затем размер пятен увеличивается, их становится больше, и они приобретают округло-угловатую форму и ярко-бурую окраску. На поверхности пятен заметен редкий темный налет, состоящий из спороношения гриба. При сильном поражении листья отмирают. Массовое заболевание приводит к значительным потерям урожая.

Этому способствует высокая относительная влажность воздуха и наличие капельно-жидкой влаги. В результате резких колебаний температуры в течение суток в пленочных необогреваемых теплицах капли влаги осаждаются на поверхность листьев и пленки, что способствует распространению бурой пятнистости листьев.

Что делать?

1.Соблюдайте плодосмен.

2.В теплице замените зараженный грунт или снимите верхнюю часть почвы слоем 5–7 см и насыпьте свежей земли.

3.Снижайте влажность воздуха проветриванием или воздушно-калориферным обогреванием теплиц.

4.Листья с первыми признаками заболевания удалите. Можно обработать растения 1%-ной бордоской жидкостью.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## Где «зимуют» нитраты

О степени загрязнения нитратами овощной продукции садоводу и огороднику, по нашему мнению, беспокоиться не стоит. Если каждый внимательно посмотрит свои записи по ведению сада и огорода, проанализируют их, то и без подсказки станет понятно, что угрозы ни собственному здоровью, ни здоровью близких нет. Удобрений органических дается настолько мало, что даже почву, ее структуру нет возможности улучшить, а минеральные стоят недешево.

И все же нужно знать места возможного нахождения нитратов и стараться избегать нарушений агротехники и корректировать свой аппетит.

В каких частях садовых и огородных растений больше всего нитратов?

*Картофель* – в кожуре и в сердцевине клубня;

*капуста белокочанная* – в верхушке кочана и в кочерыге;

*капуста цветная* – в целом содержится очень мало; в соцветиях, то есть в том, что мы с удовольствием потребляем;



*горох* – в молодых стручках;

*корнеплоды* – у корнеплодов удлиненной формы внутри содержится больше нитратов, чем в короткоплодных;

*лук* – в верхней и нижней частях луковицы;

*морковь* – в верхушке корнеплодов;

*тыква* – в семенной камере и у плодоножки;

*арбуз* – распределяются равномерно по всему плоду;

*кабачок и огурец* – в центре плодов и ближе к верхушке;

*патиссон* – только в центре плода.

Выгоночные зеленые культуры, особенно в осеннее-зимний период, все имеют повышенные дозы нитратов. По мнению ученых, чтобы получить критическую дозу нитратов, надо съесть в один присест горошка зеленого – 10 кг, зеленого лука – 5 кг, 1 кг щавеля, 5 кг арбузов и так далее. Отсюда вывод: не нарушайте агротехнику и не спешите съесть все сразу.

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**



**Пропала собака сенбернар в районе частного сектора по ул.Уральской. Большая белая с коричневыми крапинами, спина и уши коричневые. Откликается на кличку Келли. Волнуемся за судьбу собаки. Отблагодарим. Обращаться по тел. (8-029) 337-32-60. Домашний в Минске: 245-49-73.**

СЧИТАТЬ НЕДЕЙСТВИТЕЛЬНЫМ

Печать Белорусско-польского предприятия «IGDA» считать недействительной в связи с ее утратой.

Свидетельство о государственной регистрации Белорусско-польского предприятия «IGDA» считать недействительным в связи с его утратой.


**Адрас рэдакцыі:**
**220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
**nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info**

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 13.11.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 015 экз. Заказ № 4179.

9 772071 964000 17090